№ 6 (148). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 25.III.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 6 (148). Вільня, 25 Сакавіка 1939 г. Год XI.

## 10 ГОД ПРАЦЫ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“

10 год так мінула хутка, што аж ня хочацца верыць, што гэтулькі ўжо прайшло часу ад выхаду ў сьвет першага нумару «Шляху Моладзі». Сяньня, калі глядзім на ўвесь гэты час працы, здаецца, што прайшоў ён міла, прыемна і зусім забываемся аб тых усіх нявыгодах, якія так часта здараліся. Фактычна сам ужо пачатак — першы нумар «Шляху Моладзі» — паўставаў у нябывала цяжкіх абставінах, бо ніхто з сяброў Рэдакцыйнае Калегіі абсалютна ня быў прыгатаваны ані да працы выдавецкае, ані да рэдакцыйнае. І тут мусім падчыркнуць вялікую заслугу кс. Адама Станкевіча, як беларускага дзеяча і ўласьніка Беларускае Друкарні ім. Фр. Скарыны. Ён нам пазволіў бязплатна карыстацца друкарскімі прыладамі і памагаў рабіць першыя крокі ў рэдакцыйнай працы, за што шчыра Яму ўдзячныя.

Паступова, пры падтрыманьні шырэйшых кругоў беларускае моладзі і дзякуючы стараньням самых закладчыкаў, «Шлях Моладзі» рос. Праца выдавецтва і рэдакцыі ў сэнсе фаховым ставалася лягчэйшай. Пачалі аднак расьці новыя нявыгоды ў меру таго, як расло значэньне «Шляху Моладзі» і як ставіў ён сабе штораз большыя і вышэйшыя беларускія імкненьні. І так: канфіскаты, суды, забароны, ды напады ў ў прэсе крайняе лявіцы і правіцы, якія да прыемнасьцяў залічаць ня будзем.

Адным з найгалаўнейшых імкненьняў «Шляху Моладзі» было між іншым стварэньне арганізацыі беларускае моладзі, якой быў-бы ён органам. Дзеля таго ў 1929 годзе быў апрацаваны адпаведны статут і пастаноўлена сарганізаваць Таварыства Беларускае Моладзі «Будучыня» ў Вільні. Статут быў шырокі і ў межах яго можна было-б праводзіць сапраўды вялікую культурную і асьветную працу сярод беларускае моладзі, але нажаль ані Віленскае Ваяводзтва, ані Міністэрства Унутраных Спраў не згадзілася яго зацьвердзіць. Адказ Міністэрства Унутр. Спр. з дн. 23.II.1932 № V 1433/30 пакінуў нашу просьбу «bez uwzględnienia», не падаючы прычыны. Адмова гэта ня спыніла нашых імкненьняў да стварэньня арганізацыі беларускае моладзі і ў 1937 г. былі ўзноўлены стараньні стварыць гэтым разам Саюз Беларускае Моладзі, аднак Віленскае Гарадзкое Старафства не дало ўжо нават дазволу на арганізацыйнае сабраньне...

Маладыя, гарачыя, парывістыя і часта непрактычныя пёры ўваходзілі няраз у канфлікт з цэнзарам, а ў выніку гэтага мелі мы 14 канфіскатаў, а пасьля і суды. Кожная такая канфіската «Шляху Моладзі» прыносіць вялікія, перад усім матарыяльныя страты. Суд аднак, хоць так-жа прыносіць кошты, але дасюль пакараў нас правамоцна толькі адзін раз.

Ня гледзячы на няспрыяючыя абставіны, «Шлях Моладзі» разьвіваўся, выдаў 4 вельмі карысныя кніжкі («Палітычныя кірункі ў мінуўшчыне і сучаснасьці», «Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня», «Літаратурная і грамадзкая дзейнасьць А. Пашкевічанкі (Цёткі)» і «Rady chvorym i zdarovym», kn. III. (Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja) і гуртаваў каля сябе штораз большыя жывыя маладняцкія беларускія сілы, а ў іх ліку ўвесь бадай літаратурны маладняк. Спрыяла гэтаму шырокая плятформа, на якой стаў «Шлях Моладзі» і мэты, якім пасьвяціў свае бачыны. Мэтай нашага часапісу было і ёсьць скіраваньне беларускае моладзі на правільны нацыянальны беларускі шлях, абзнаямленьне яе з беларускай гісторыяй, геаграфіяй, літаратурай, народным творствам, абарона інтарэсаў Беларускага Народу, культурная, асьветная і ўзгадаваўчая праца, да каторай запрошаны ўсе, каму дарагая беларуская справа. І сапраўды, на бачынах «Шл. Мол.» друкаваліся артыкулы Беларусаў розных паглядаў і палітычных кірункаў, якіх лучыла любоў да свайго краю і Беларускага Народу. Такі збор людзей ня значыць аднак, што «Шлях Моладзі» ёсьць нечым бязхрыбетным і ня мае свае ідэолёгіі. Не! «Шлях Моладзі» апіраючыся на хрысьціянскай этыцы выпрацаваў сабе сваю ідэолёгію, апёртую на беларускай традыцыі, народных жаданьнях і імкненьнях. Галоўнымі асновамі нашае ідэолёгіі ёсьць здаровы, творчы беларускі нацыяналізм і высокія дэмакратычныя прынцыпы: свабода, роўнасьць і братэрства. Шырэй аб гэтым пісалі мы ў № 11(127) «Шл. Мол.», 5.V.1938, а так-жа ў іншых нумарох, а ў гэтым вельмі трапна характарызуе нашую ідэолёгію Высока Паважаны Кс. Адам Станкевіч у сваім прывітаньні, дзеля таго ня будзем над ідэолёгіяй больш затрымлівацца, а зьвернем яшчэ ўвагу на зьмест «Шляху Моладзі».

Вось-жа дзеля вышэй паказаных мэтаў стараемся ў «Шляху Моладзі» даваць артыкулы

з галінаў культурна-асьветнае, узгадаваўчае, а таксама аб справах, якія зьяўляюцца для Беларускага Народу і моладзі вельмі актуальнымі, ды ў меру магчымасьці інфармаваць аб падзеях у краю і ўсім сьвеце. Трэба сказаць, што чытачы нашы цікавяцца часапісам, трымаюць з ім кантакт і выражаюць свае пажаданьні, што для рэдакцыі ёсьць ня толькі вялікай помачай, але і пацехай. — Адны хацелі-б, каб было ў «Шл. Моладзі» больш матарыялу з галіны культурна-асьветнае ці мо' лепш сказаць—з галіны навукова-папулярнай, другія — каб больш інфармацыяў, палітычных аглядаў і г. д. Ізноўжа літаратурны маладняк, а так-жа і старэйшыя беларускія літаратары хочуць, каб больш месца пасьвячаць для вершаў і прозы. Студэнты, якія заўсёды былі ў радох нашых супрацоўнікаў, неабходна патрабуюць мець сваю сталую бел. студ. трыбуну. Усе дамаганьні зусім правільныя. Патрэба асьветы, асабліва для моладзі, вялізарная. Адначасна вёска наша ня мае свае багатае беларускае прэсы, а цікавіцца падзеямі, якія цяпер проста трасуць сьветам. Трэба так-жа даць магчымасьць разьвівацца літаратурнаму маладняку і запраўляцца да грамадзкае працы беларускаму студэнцтву. Мы хацелі-б усіх задаволіць. Аценяючы значэньне літаратуры і патрэбу бел. прозы ладзілі адумысловы літаратурны конкурс. Ведаючы-ж ролю, якую адыгрывае ў жыцьці маладога пакаленьня і агулам народу студэнцтва, супольна з бел. студэнтамі пачалі выдаваць студэнцкі дадатак «Šlach Biełaruskaha Studenta». Давалі-б больш артыкулаў навукова-папулярных і інфармацыяў, але бачыны часапісу за малыя і пакульшто ня можам іх павялічыць. Але робяцца і ў гэтым кірунку стараньні. Група беларускае інтэлігенцыі, а так-жа і выдаўцы «Шляху Моладзі» стараюцца, каб сыстэматычна выдаваць брашуры характару навукова-папулярнага. Гэта быў-бы ўжо вялікі поступ у галіне асьветнай. Але, як для выдавецтва названых брашураў, так і для павялічэньня «Шляху Моладзі», каб мог ён яшчэ лепш спаўняць сваю ролю, патрэбнае агульнае падтрыманьне моладзі і народу. Для вялікіх агульна-народных справаў патрэбны агульныя натугі і поступ да штораз большых асягненьняў. Праўда, «Шлях Моладзі» зрабіў поступ і выходзіць ужо нават не адзін раз, як на пачатку свайго існаваньня, а два разы ў месяц, але гэтага мала. Мы бачым, што вёска наша і народ далей жыве ў цяжкіх варунках, сярод моладзі шмат яшчэ ёсьць цемнаты, дзічы і пануе нядоля. Дзеля таго ўсім, у каго гарыць сэрца любоўю да свайго краю і народу, трэба штораз больш энэргічна і ахвярна працаваць над паляпшэньнем яго долі — маральнае і матарыяльнае.

Я. Н.

## ПРЫВІТАНЬНЕ

*„Шлях Моладзі“ родны вітаю,*
*Яму шлю гарачы прывет!*
*Да мэты аднэй я шагаю*
*Бадзёра за ім я усьлед.*

*Як прыдзеш пад нашыя стрэхі,—*
*Наперад ступаем сьмялей,*
*З Табою шмат радасьці, ўцехі,*
*З Табою жыцьцё весялей.*

*Мы—моладзь, мы—сіла народу,*
*Ідзём па „Шляху Маладых,“*
*Да лепшае, сьветлае, долі,*
*Да шчасьця свайго і ўсіх.*

*Са шляху ня ўступім нікому,*
*Ня зьвернем ні й бок ні назад.*
*Шагаем к быцьцю ўжо другому,*
*Тварцы мы жыцьця, авангард.*

*Мы пэўны сваей перамогі...*
*Гэй, моладзь, ня знай перапон!*
*Прад намі шырокі дарогі*
*Да новых і сонечных дзён.*

*„Шлях Моладзі“ родны вітаю,*
*Ад гора вітаю і бед —*
*Ад вёскі Яму пасылаю,*
*Гарачы і шчыры прывет!*

*Янка Бунтар*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

**Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу!**

# Граніца

Каратталі мы дома апошнія дні. Крыху яшчэ працавалі, але ўжо зьбіраліся ў дарогу. Было нас трох. Часта зьбіраліся ў Белавежскай Пушчы і абгаварвалі пляны. Была раньняя беларуская восень. На пяшчаных палосках падбелавежскіх вёсак разсядаліся бабы. Вольна снуем туды-сюды, шукаем пад кустамі грыбоў. Аднак гэта толькі для вока, бо аб другім думаем.

У канцы жніўня плян дасьпеў — ідзём. Дома ніхто нічога ня знае. Дзядзька перад выездам разьвітваецца—нармальна, як перад выездам на работу:—„Будзь здароў сынок, ідзі шчасьліва, хай цябе Бог сьцеражэ.“ Толькі матка штосьць прадчувае. Сьпіць неспакойна, тужлівей глядзіць на мяне, ходзіць як не свая. Калі разьвітваемся, моцна плача: „Не пабачу цябе больш, чуе маё сэрца, не пабачу.“ Успакойваю, як магу. Накідаю на руку плашч, бяру невяліччкі пакунак і—бывай вёска, бывай тая, аб якой ночы ня спаў, думаў.

Першага верасьня пад вечар сядзім у цягніку. Стукочуць колы, вагончыкі хіляюцца ўва ўсе бакі. Аддаляецца ад роднае старанны. На другі дзень пад вечар апынуліся ў прыгранічным мястэчку. Трэба ўчуцца ў атмасфэру прыгранічча. Пайшлі паасобку ў мястэчка, снуем, прыглядаемся. Заходжу ў жалезную краму, купляю абцугі на рэзаньне дроту. Крамнік паглядзеў на мяне — нічога не сказаў, дагадаўся. Днём разглядаліся па полі ў ваколіцах мястэчка, ночы прасыналі абы дзе. Знаёміліся з мясцовасьцю. Часта-густа натыкаліся на пагранічнікаў, якіх абыходзілі.

Урэшце падабралі месячную ноч і рушылі. Кіраваліся на ўсход па зорах і месяцы. Абмануў нас месяц. Пакуль мы наставіўшы вушы брылі па полі, падыйшоў ён высока. Зьбіліся мы з дарогі. Ледзь толькі адышлі ад мястэчка, наткнуліся на хутарную асаду, ды датаго з сабакамі. Спушчаныя на-нач з ланцугоў, скочылі яны за намі. Зьнекуль вырваўся і чалавек на кані. Падабраўшы вышэй ногі, кінуліся мы ў бок, да бліз-

# СЫМБАЛІ БЕЛАРУСКАЕ СТОЙКАСЬЦІ

*(У 75-тыя ўгодкі сьмерці Кастуся Каліноўскага і 60-тыя ўгодкі нарадзінаў Пётры Крэчэўскага)*

Пераглядаючы прозьвішчы, жыцьцё і дзейнасьць вялікіх і заслужаных для беларускага



К. Каліноўскі



П. Крэчэўскі

адраджэньня змагароў, напатыкаем на дзіўнае падабенства да сябе Кастуся Каліноўскага і Пётры Крэчэўскага. Слаўныя гэтыя постаці жылі і дзеілі ў розных часох, аднак служылі аднэй і тэй самай беларускай адраджэнскай ідэі і былі ў вельмі многім да сябе падобныя.

Кастусь Каліноўскі — паўстанец, званы чырвоным дыктатарам Беларусі і Літвы, — аж да самай сьмерці на царскай шыбеніцы, колькі меў сілы, з поўным адданем працаваў для дабра Беларускага Народу. Будзіў яго сваім бел.. часапісам „Mužyckaja Praŭda", будзіў яго жывым словам да лепшага, сьвятлейшага жыцьця. А калі апынуўся ў вязьніцы, ня здрадзіў беларускае ідэі, міма вялікіх намаганьняў царскіх прыслужнікаў, і ўсьцяж памятаваў аб сваім народзе пішучы яму лісты з пад шыбеніцы, у якіх казаў:

*Беларуска зямелька, галубка мая!*
*Гдзеж падзелася шчасьце і доля Твая?...*
*Бывай здаровы, даражэнькі Народзе!*
*Жыві ў шчасьці, жыві у свабодзе*

---

кага лесу. А тут як на бяду—ўзноў хата, хата аб'ежчыка. Трэба было абягаць. Віхрам упятаем у лес і кіруемся ў сярэдзіну. Сабакі асталіся. Умеру, як мы заглыбляліся ўлес, галасы іх ціхлі. Трохі адпачыўшы, сьціраваліся мы на бераг і пайшлі высьцерагаючыся людзей. Ноч была месячная. Кожны куст даваў цені, а нам здавалася, што гэта людзі. Дайшлі да залому лесу. Наперадзе было поле, пасьля нявысокі лес, а ў ім блішчэла будыніна з бляшанай страхой.

— О, гэта ўжо граніца. Напэўна стражніца пагранічнікаў. Трэба асьцерагацца.

Заглыбіліся назад у лес і пачалі абходзіць. Раптам перад вачыма просінь неба і канец лесу. Чуем бразг жалеза. Хутка падаемся назад і лажымся пад кусты ды слухаем. Набліжаюцца галасы. Думалі— затрымаюцца на краю лесу. Не, ідуць далей. Проста на нас. Зрывацца позна, наробім шуму. Што будзе, то будзе— ляжым. Прайшлі міма нас, ледзьледзь не зачапіўшы ног. Пазналі мы іх,—сяляне на начлезе. Згубілі коні. Шукалі. Пачакаўшы мінут 10 выбіраемся з лесу. На полі спатыкаем маладога селяніна. Пытаем пра мясцовасьць, пра граніцу, дзе і як. Баіцца, маўчыць. Трэба самім шукаць. Узбрылі на балота. Мокра. Што далей, тым больш грозна. Ногі да кален мокрыя, існьці цяжка. На бяду дабрылі да нейкай рэчкі. Перайсьці нельга. Ідзём уздоўж берагу, шукаем праходу, можа звузіцца. Урэшце перайшлі. У балота назад лезьці баімся. Хто ведае, якое яно і дзе канчаецца. Перад вачыма нешта цямнее. Прыбліжаемся — сад, аграмадны сад. Значыць — двор. Ня знойдзем прыпынку. Абмінаем яго, узыходзім на пасьбішча. У паветры чуць раніцай. Пачынаецца разсьвет. Трэба разлажыцца на днёўку. На пасьбішчы небясьпечна, яшчэ знойдуць. На кругазоры віднеецца млын. Можа туды? — Не, не, таксама небясьпечна. Лазячы так, знаходзім бульбу. Ня доўга думаючы, кладзёмся ў разоры. Папалі недалёка дарогі.

Узыйшло сонца. З вёскі едуць і йдуць людзі. Ледзь падняць

*І часам спамяні пра „Яську" Твайго.*
*А калі слова пяройдзе у дзела,*
*Тады за працу станавіся сьмела,*
*Бо адно з працай у грамадзе згодна*
*Даждэшся, Народзе, старасьці*
*свабодна...*

З гэтага ўжо відаць, як вялікім патрыётам і ідэалістам быў Каліноўскі. Быў гэта палітык, ваяка, культурнік, паэт перапоўнены гарачай любоўю да свае Бацькаўшчыны Беларусі, справу адраджэньня і самастойнага існаваньня каторае прадстаўляў сабе зусім рэальна ўжо ў 1862 г., калі Беларускі Народ сапраўды спаў быццам непрабудны сном, а ўсеўладна панавалі над нашай краінай чужынцы.

Падобнай верай, ахвярнасьцяй і стойкасьцяй адзначаўся і Пётра Крэчэўскі — Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, — каторы стойка бараніў самастойнасьці Беларусі і Вялікага Акту 25-га Сакавіка 1918 г., якім абвешчана Беларусь Незалежнай. Яму, падобна як і Каліноўскаму, сільныя гэтага сьвету сулілі павабныя прапазыкі, каб толькі ён прычыніўся да ліквідацыі незалежніцкае беларускае думкі. Хацелася гэтага асабліва камуністам, аднак П. Крэчэўскі, ня гледзячы на тое, што бальшавікі зьліквідавалі Беларускую Народную Рэспубліку і што жыў горкім эміграцкім хлебам, не пайшоў на здраду. Ён стойка дзяржаў незалежніцкі сьцяг да сьмерці, каторая забрала яго ў 1928 г.

П. Крэчэўскі, як прыстоіла галоўнаму кіраўніку Беларускага Ураду, ставіў справу самастойнага існаваньня Беларусі ўва ўсей яе шырыні. Сьведчыць аб гэтым добра зборнік «Замежная Беларусь», выданы ў Празе Чэскай у 1926 г., у каторым П. Крэчэўскі зьмясьціў свае працы, матарыялы і дакумэнты, з якіх відаць, як сапраўды ўсестароньня прадстаўляў магчымасьці і патрэбу існаваньня незалежнай Беларусі, а таксама — як усестароньня бараніў яе на міжнародным грунце, між іншым у сваім Мэморандум у Лігу Народаў. П. Крэчэўскі, апіраючы правы Беларусаў да самастойнага гаспадарственнага жыцьця на ідэі самастанаўленьня народаў, на спэцыфічнасьці Беларусі ў тэрыторыяльным і нацыянальным адношаньні, на жаданьнях і волі Беларускага Народу і ягонай сьветлай традыцыі гаспадарственнага незалежнага жыцьця ў сівой мінуўшчыне, даказаў такжа магчымасьць самастойнага жыцьця Беларусі ў сэнсе эканамічным. Між іншым, П. К. сьцьвердзіў, што да ўсясьветнае вайны штогод з Беларусі вывожана было заграніцу розных тавараў на суму каля 70 мільёнаў рублёў, а прывожана на суму 50 мільёнаў рублёў (галоўным чынам прывозілі: соль, селядцы, газу, жалеза, каменны вуголь і інш.). П. Крэчэўскі, як бачым, быў палітыкам з гаспадарственным беларускім розумам. Але ён ня толькі быў палітыкам. П. Крэчэўскі быў так-жа паэтам. І як мне ўдалося даведацца, у Празе ёсьць у прыватных сховах жонкі П. Крэскага шмат ягоных вершаў, якія дасюль нідзе ня былі друкаваныя. З усіх ягоных твораў дасюль пабачыла сьвет толькі некалькі вершаў у названым вышэй зборніку «Замежная Беларусь», падпісаных літарай К. Аб тым, што гэта вершы П. Крэчэўскага, цьвердзіць найбліжэйшы ягоны таварыш, Віцэ-старшыня Рады Бел. Нар. Рэсп., В. Захарка, каторы заняў па сьмерці Крэчэўскага высокі ганаровы беларускі пасад Старшыні Рады Б.Н.Р.

Вершы Крэчэўскага адзначаюцца перад усім глыбокім беларускім патрыётызмам, вострасьцю, верай у лепшую будучыню Беларускага Народу, тугой за родным краем, ад якога быў аддалены апошнія свае гады, а так-жа не малымі мастацкімі прыёмамі. Хацелася-б зараз усё сказанае пацьвердзіць цытатамі, дзеля аднак цэнзуральных абставінаў будзем агранічацца і падамо толькі некалькі характэрных зваротак. І так П. Крэчэўскаму на чужыне ўсьцяж кружылі думкі аб роднай старонцы, што высказаў ён у вершы «Таёмная смага»:

*Душна мне. Сэрца калоціць*
*У грудзі, як ў браму ўначы,*
*Той, што лісты, тэлеграмы*
*[разносіць,*
*Спаць не дае, хоць крычы.*

*Душу мне страх агартае,*
*Стыне у жылах і кроў...*
*Сэрца нічога ня знае —*
*Цягнецца толькі дамоў.*

Думаючы аб вестках з роднага краю ў вершы «Рэха» ён кажа:

*Калі народ мой адгукнецца*
*І скажа мне: ідзі сьмялей...*
*Тады, браты мае, здаецца*
*І мора пойдзе за гарой.*

Разважаючы-ж над кнігай

---

трошкі галаву — відаць іх, як на далані. Дастаем, хто што мае ў кішані — грызём. Я меў кусок сухога сыру. Намучыла мяне потым смага. Дзень папаў акурат сонечны, прыгожы. З ночы мы былі зусім мокрыя. Вопратка на сонцы распарылася, кусае за цела, шчыпае. Ледзь дачакаліся мы вечару.

Як толькі сонца спусьцілася на захад, падняліся мы з разоры і сьціраваліся на дарогу. Недалёка сяляне пасьвілі авец. Ад іх мы даведаліся, што граніца ад нас паўтара кілёмэтра і што гэтай дарогай штодзень пад вечар ходзяць пагранічнікі. Папытаўшыся далей пра жыцьцё-быцьцё пайшлі мы ў суседнюю вёску, дзе прабылі, пакуль добра сьцямнела. А там — ноч маці. Прайшоўшы прыгнуўшыся з паўкілёмэтра пачалі мы паўзьці. Як на злосьць, поле хутка кончылася і пачаўся нізкі паплаў-пасьбішча. Пляцоўка пагранічнікаў як на далані. Няма рады, трэба шукаць захіну. На шчасьце знаходзім няглыбокі роў. Вады чуць-чуць. Паўзучы на локцях — вада ня зусім іх залівае. Ноч гэтая здаецца нам вечнасьцяй. Граніцы як ня было. Падвойваем натугі. Зорка сочачы па баках крадзёмся як вужы і раптам плот!... плот!... Значыць граніца.

Пачынае сьвітаць. Мерым даль — мэтраў 100-80. Зрываемся — і ня гледзячы на нічога рвём з усяе сілы наперад. Падбягаем. Плот з калючага дроту. Цягну з кішэні абцугі — тну. Ход вольны.

Па той старане абшар вольны ад лесу. Але там ужо не бяжым, ідзем памалу. Сьвітае на добрае. Углядаемся ў лес, на поле, неба. Хочам адчуць новае. Але што? Пасьля колькідзеннага напружаньня волі — моцна паслаблі. Думка толькі хоча разгадаць: што нас тут чакае, як выглядае гэтае новае, няведамае. Граніца і труд за намі, таёмнае і страшнае няведамае — перад намі. Ідзём яго пазнаваць, адкрываць.

*М. К. П.*

дасьледжваючы сваю беларускую гісторыю Крэчэўскі м. ін. пісаў:

*Тут дзеі мінулага ходзяць,*
*Я бачу ў іх продкаў сваіх,*
*Яны у жыцьцё мяне ўводзяць,*
*Бароняць ад поступаў злых.*

*Даюць мне напрамак і сілу*
*Змагацца за праўду, народ,*
*Каб мы адыйшоўшы ў магілу*
*Таксама маглі даць прыплод.*

Патрыётызм П. Крэчэўскага быў на гэтулькі высокі, што ён нават сьмерцяй хацеў-бы даваць прыплод свайму народу. І фактычна, Крэчэўскі вытрымаўшы стойка на сваім становішчы даець прыплод новых сілаў беларускаму адраджэньню нават пасьля сваей сьмерці, так як гэта зрабіла стойкая барацьба і мучаніцкая сьмерць Кастуся Каліноўскага. — Крыштальныя гэтыя дзьве гістарычныя постаці зьяўляюцца сымбалямі беларускае стойкасьці.

*Я. Н.*



# „Шляху Моладзі" ў 10-я ўгодкі яго існаваньня

Дзесяць гадоў існаваньня беларускага часапісу, — гэта нямала знача. За гэты час »Шл. Мол.« вырас, значна разьвіўся і акрэп. Я добра памятаю яго пачаткі, бо і мне давялося дзесяць гадоў таму пабываць на яго »хрэсьбінах.« І сяньня, будучы, не па сваей волі, аддаленым ад Вільні, я з прыемнасьцяй успамінаю тыя хвіліны, хвіліны пачатнай працы гэтага часапісу і супольна з ім сьвяткую яго юбілей.

Вось-жа вітаю „Шлях Моладзі", выдаўцоў, рэдактароў, супрацоўнікаў і ўсю беларускую моладзь, і жадаю трываць далей пры працы для дабра Беларускага народу.

Пры гэтай нагодзе хачу выказаць усё тое, што я аб „Шл. Моладзі" думаю.

Прадусім мушу адзначыць той вялікі *ідэалізм*, якім адзначаюцца выдаўцы і рэдактары гэтага часапісу, а без якога на сьвеце ня дзеецца нічога вялікага, праўдзіва паступовага і добрага. Гэты ідэалізм „Шл. Мол.» прадусім кідаецца ў вочы з боку матар'яльнага і ар-



**Група супрацоўнікаў «Шляху Моладзі» з вёскі і выдаўцы**
Стаяць з лева на права: П. Кайкоўскі, І. Шусьціцкі, Я. Багдановіч, Я. Найдзюк, А. Шутовіч, наймалодшы і пачынаючы паэт Сурвіла, Я. Пітушка і Я. Ляховіч.

# Чорнасоценны поп і жонка Леніна

Памёрла ў Маскве нядаўна Надзея Крупская — ўдава першага дыктатара Савецкага Саюзу. Аж 10 выдатных дактароў мусілі падпісаць нейкі там бальшавіцкі акт, пацьвярджаючы, што жонка Леніна памёрла нармальна, як быццам звычайная чалавечая сьмерць перастала ў СССР быць нармальным зьявішчам?

У часе працэсу Каменева, Зіноўева і іншых псэўдонімаў з ліку старых ленінцаў, газэты пісалі, што Н. Крупская недзе неяк там пратэставала проці суда і расстрэлу іх і была сама за гэта ўзята ў сталінскую апалу. Магчыма! Як зусім магчыма і тое, што пасьля пратэстаў проці сталінскага зьверства трудна цяпер памёрці было нармальнай сьмерцю, у краіне бальшавіцкіх экспэрымэнтаў, нават самой удаве Леніна.

Хочацца падаць да публічнага ведама адзін нікому можа й няведамы дасюль факт, сьведкай якога давялося мне быць у Менску зімою 1919-20 школьн. году. Факт гэты паказвае, што Крупская была здольнай на высокачалавечны пступак, ня гледзячы на сваю бальшавіцкасьць.

Цікавыя наагул былі перажываньні ў тыя, ня вельмі далёкія, гады „ваеннага камунізму." Усяго не апісаў-бы, здаецца, і на валовай скуры.

У 1919-20 школьным годзе я паступіў настаўнікам у 22-ю беларускую школу, у Менску, на Аляксандраўскай вуліцы. Школаю кіравала стараватая ўжо дэвотка-беларуска Г. з беларускай хрысьціянска - дэмакратычнай злучнасьці. Школа-ж была гарадзкою, як і ўсе іншыя школы. Паступіла туды, як былая народная настаўніца і жонка аднаго з нашых „белых" народных міністраў, калежанка З., але пад сваім дзявочым прозьвішчам; кватэру яна мела сабе ў чорнасоценнага папа С.

Сам я — фармальны дэзэртыр, што не зьяўляўся ў рады чырвонае арміі, ня гледзячы на грозныя прыказы бальшавіцкага ваенкома, абвешчаны бальшавікамі *„вне закона"* за тое, што быў сябрам Рады БНР, — служыў сабе настаўнікам, не скажу каб вельмі спакойна. Ад менскае камісаркі па гарадзкой асьвеце Фрумкінай-Віхманіхі атрымаў разоў пару на пісьме прыказ злажыць ёй дакумэнты датычна мае вайсковай павіннасьці, нічога з

ганізацыйнага гэтага часапісу. Выходзе ён коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча, якія, будучы друкарамі, урываюць час свайго адпачынку пасьля цяжкой працы і складаюць »Шл. Мол.« Рэшту коштаў пакрывае «Белпрэс» з падпіскі. Адзін-жа з гэтых друкароў, Язэп Найдзюк, знаходзе яшчэ так-жа часу на пісаньне артыкулаў і рэдагаваньне гэтага часапісу. Падчоркваю гэта, каб паказаць, колькі ў Беларусаў ёсьць ідэалізму і сардэчнай любові да сваей роднай беларускай справы. Народ, які мае гэткіх сыноў, ня можа згінуць.

Апрача ідэалізму, які ўкладаюць у выдавецка-рэдакцыйную працу вышэйўспомненыя асобы, належа яшчэ так-жа адзначыць тыя галоўныя прынцыпы, якімі ў сваей працы супрацоўнікі „Шл. Мол.“ кіруюцца. Прадусім тут трэба адзначыць іх *нацыяналізм*. Яны ў сваей працы кіруюцца беларускім нацыянальным прынцыпам. Аднак нацыяналізм гэны ў «Шляху Мол.» ня ёсьць зоолёгічны, зьвярыны і таталістычны. Праўда, нацыяналізм гэтага часапісу «тотальны», цалком абымае беларускую праблему і беларускі народ: *углыбкі* і *ўшыркі* — народны быт, народную псыхіку, культуру, рэлігію, эканоміку, соцыялёгію, гісторыю, географію і палітыку, — але *ўвышкі* гэты нацыяналізм не тотальны, бо ён не замыкаецца ў сабе самым, ня робе з сябе ідала-бажка, мае аткрытыя на сьвет вочы і грудзі, прызнае і шануе нацыянальныя правы і нацыянальныя імкненьні ўсіх іншых народаў, карыстае з іх культурных здабычаў. Гармонійнае сужыцьцё народаў на падставе аб'ектыўнай справядлівасьці і вольны абмен культурнымі вартасьцямі — вось сутнасьць нацыяналізму „Шляху Моладзі.“

Другім прынцыпам, на якім „Шл. Мол.“ апіраецца і ў кірунку якога працуе, — ёсьць *дэмакратызм*. Сутнасьць яго: народаўладзтва і свабода. Аднак, як нацыяналізм, так і дэмакратызм «Шл. Мол.» ня ёсьць тотальным. Тотальны ён *углыбкі і ўшыркі:* абымае ўсе соцыяльныя слаі і ўвесь беларускі народ, але не тотальны *ўвышкі:* права асобы чалавека, сям'і, рэлігіі астаюцца вольнымі і нікому не падпарадкаваны, апрача Божых і агульналюдзкіх прынцыпаў.

Вось-жа гэткім я знаю „Шл. Моладзі“ і гэтак я яго разумею. Здаецца гэткім ён ёсьць сапраўды і гэткія ёсьць галоўныя ідэовыя прынцыпы, як выдаўцоў і рэдактароў гэткага часапісу, так і тэй беларускай моладзі, якая даходзе да нацыянальнай сьведамасьці і так ці інакш працуе на беларускай ніве і пашырае беларускую нацыянальную сьведамасьць у шырокіх і глыбокіх пластох Беларускага народу.

## *ШЛЯХ МОЛАДЗІ*

*(Акроверш)*

*На 10-я ўгодкі часапісу «Шлях Моладзі»*

**Шлях народны** *к лепшай долі*
*Лёг праз нашае жыцьцё...*
*Ярка сьвеціць зорка долі,*
*Хоць навокал сумна ўсё.*

*Моладзь! Дружна! У дарогу!*
*Охі з сэрца выкідай...*
*Лева-права — ўсе у ногу,*
*А па зорцы той раўняй!*
*Дружна, моладзь! На работу...*
*Зло з карэньнем вырываць*
*І для долі шчасьця ўзьлёту*
**Шлях народны** *расшыраць!*

*УЛАД-ІНІЦКІ*

Здаецца мне так-жа, што гэныя прынцыпы, якіх трымаецца „Шл. Моладзі», аб якіх я тут у некалькіх славах успомніў, зьяўляюцца прынцыпамі правільнымі і вядуць беларускую моладзь да лепшай, сьветлай будучыні.

Яшчэ раз шчыра вітаю «Шл. Моладзі» з яго юбілеем, вітаю ўсіх яго супрацоўнікаў і чытачоў і жадаю, каб у хуткім часе гэты часапіс яшчэ больш разросься і разьвіўся і каб згуртаваў каля сябе ўсю беларускую моладзь, — гэтую маладую гвардыю, якая давяла-б Беларускі народ у вялікую сям'ю культурных і цывілізаваных народаў!...

**Ад. Станкевіч**

Слонім, 6.III 1939 г.

---

гэтага не рабіў, бо, як былы афіцэр, рызыкаваў галавою, аднак у бальшавіцкіх вайсковых уладаў не рэестраваўся. Праўда, што цяжка было перажываць „тыдзень дэзэртыраў,“ калі кожнаму дакляравалася дараваньне кары (праўдзівей кажучы, жыцьця!), калі ён пакіне ўхіляцца ад вайсковай павіннасьці і ў працягу 8-х ці 9-ёх дзён зарэеструецца, ня тоячы свайго былага званьня ў расейскай арміі. Але пражыў я неяк і тыдзень дэзэртыраў, ходзячы на працу ў школе штодзень акуратна.

Прашу мне выбачыць за гэткую спраўку аб сабе і пераходжу да расказу пра чорнасоценнага папа, пра налёт на яго кватэру чэкістых, арышт і г. д.

Быў дзень, калі калежанка З. на службу ня прыйшла. Кіраўніца школы дала мне яе адрэс і папрасіла даведацца, ці не захварэла часам наша ціхая, сымпатычная калежанка і добрая настаўніца.

Зьявіўшыся ў кватэру папа С., застаў я там зьбялеўшыя насьмерць дзьве жанчыны: калежанку З. і „матушку“ С. — папову жонку, значыцца. Па ўсёй кватэры быццам швэды прайшлі. Параскіданыя на падлозе паперы, кнігі, парцё, вопратка, падушкі і пер'е з іх – усё сьведчыла, што нехта тут няпрошаны пагаспадарыў.

Матушка паказалася мне раптам пасівеўшаю, а калежанка З. пастарэўшаю гадоў на дзесяць. Яна не магла аддыхацца і на прывітаньне маё ня мела сілы ўсьмяхнуцца. Слабым перарывістым голасам гаварыць пачала можа праз паўгадзіны. А я ўсё пытаючыся, з магчыма ласкаваю ўсьмешкай:

— Што гэта ўсё значыць? Што тут было ў вас?...

Першаю загаварыла матушка.

Трасьлі ўсю ноч чэкістыя. Мужа арыштавалі. Калі раніцай пайшла у ЦК, пытаючыся, ці жывы яшчэ муж яе, дык сказалі там, што ён адасланы ў Маскву.

— Я звар'яцею, ня вытрываю, — хапалася за галаву матушка, — я нават маліцца ўжо згубіла здольнасьць.

Чым я мог пацешыць няшчасную, старую жанчыну?

Тымчасам язык пачаў služыць і калежанцы З.

— Найгорш тое, — ціхенька казала яна,—што бацюшкаў білет сябра „союза русскаго народа“ знайшлі... Да вураднікцкай вайсковай вопраткі мужа майго ўчапіліся. Шынель ды яшчэ тое-

# Паўлюк Трус

*(у дзесятыя ўгодкі сьмерці песьняра).*

Сёлета мінае дзесяць год ад сьмерці выдатнага беларускага паэта Паўлюка Труса. Паэт памёр ад цяжкой хваробы брушнога тыфусу, у цьвеце веку, бо меў усяго толькі 25 гадоў, памёр у пару, калі ягоны талент пачаў буйнець і асягаць штораз большыя паэтыцкія магчымасьці.

Кароткі жыцьцёвы шлях паэта прадстаўляецца наступна: радзіўся ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Нізок, Менскага павету; тут-жа атрымаў пачатковую асьвету; далей вучыўся ў сямілетняй школе ў мястэчку Вузда; прадаўжаў адукацыю ў Менскім Беларускім Пэдагогічным Тэхнікуме (1923—1927), па сканчэньні якога працаваў у рэдакцыі газэты „Палеская Праўда“ (Гомель); у 1928 г. пачаў здабываць вышэйшую асьвету ўступіўшы ў Менску на пэдагогічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

У кароткім сваім жыцьці адзначаўся паэт бязупыннай працай над сабой і на грамадзкай і літаратурнай ніве.

Трус быў актыўным сябрам многіх грамадзкіх арганізацыяў, сталым, энэргічным супрацоўнікам розных газэт. Амаль усе пэрыядычныя выданьні Менску (газэты: „Беларуская вёска“, „Савецкая Беларусь“, „Зьвязда“, „Беларускі Піонэр“, „Малады Араты“, „Полымя“, „Маладняк“) зьмяшчалі прадукт працы ягонай творчай душы.



**Паўлюк Трус**

Свае першыя спробы пяра пачаў зьмяшчаць сыстэматычна ў насьценнай газэце Беларускага Пэдагогічнага Тэхнікуму, а ад 1924 г. пачаў друкаваць свае вершы ў пералічаных выданьнях.

Пры жыцьці паэта выйшлі асобнымі выданьнямі два зборнікі яго лірычных вершаў: *„Вершы“*, Менск 1925 г. і *„Ветры буйныя“*, Менск, 1927 г., па сьмерці — *„Выбраныя вершы“*, Менск, 1931 г., а ў 1934 г. акадэмічнае выданьне—абшырны том *„Збору твораў“* П. Труса, Менск, Выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук, у якім зьмешчана значная частка літаратурнае спадчыны песьняра.

Тэматыка творства, ідэолёгічнае накіраваньне і амаль усе мастацкія сродкі Паўлюка Труса характарызуюць яго, як тыповага беларускага сялянскага песьняра.

Малюнкі беларускага жыцьця, поэтызацыя сялянскай гаспадарскай працы, вобразы барацьбы за гаспадарчы і культурны дабрабыт вёскі, беларускія вясковыя пэйзажы, асабістыя інтымныя перажываньні, апраўленыя ў рамкі вясковага пэйзажу або сялянскага быту, а з гэтых перажываньняў першым чынам лірыка каханьня—вось галоўныя тэматычныя заінтэрэсаваньні Паўлюка Труса. Беларускі вясковасялянскі элемэнт выпаўняе сабою амаль усё творства песьняра, — лірычныя вершы, мастацкія паэмы і публіцыстыку ў вершах.

Міма таго, што пясьняр жыў, вучыўся і працаваў у савецкіх варунках, гдзе абавязывае камуністычная ідэолёгія, яго творства пранітавана іншай ідэолёгіяй. А ў тых творах, у якіх выражаны рэвалюцыйныя матывы, ён далёкі ад правільнага разуменьня палітычна-сацыяльных праблемаў у духу камуністычнае ідэолёгіі.

Самое зьявішча рэвалюцыі паэт разумее пасвойму, — як

---

сёе забралі, дапытваючыся, чыё гэта? Я адказала, што брата майго, няведама дзе згінуўшага...

— Ну, вы ў школу не сьпяшайцеся! – казаў я калежанцы,— хай нэрвы крыху ў парадак прыйдуць.

— Ой, ня ведаю, ці змагу я цяпер нават праз які тыдзень за працу ўзяцца! — адказала яна.

Матушка павяла мяне па ўсіх пакоях даволі вялікае кватэры свае, дзе ўсё было перакулена дагары нагамі.

Адзін толькі салідны, даволі тоўсты, у машастовай вокладцы, альбом важна ляжаў на стале гасьціннага пакою, быццам нікім незакрануты.

— Дзіўна! — сказаў я галасна, падыходзячы да гэтага альбому, — лахманы розныя папёрлі, а гэтае рэчы, як быццам і ня бачылі...

— Ага! — перабіла мяне матушка,—ведаеце, хто тут ёсьць?... Мадам Леніна... мы разам вучыліся з ёю калісь... вось гэта я, а гэта—яна, Надзенька Крупская,— паказала на адну з картак альбому, быццам павесялеўшая раптам, матушка...

На старой фатаграфічнай картачцы пабачыў я вясёленькія тварыкі дзьвёх расейскіх школярак...

— Эўрыка! — гукнуў я, каб разагнаць забойчы настрой калежанкі З. і разьбітай горам матушкі.

І пачаў радзіць, як ратаваць арыштаванага ўночы папа.

Пісаць у Маскву, прыпомніць Крупскай далёкія школярскія гады, можа нават картачку гэтую ёй паслаць. Пісаць не як бальшавіцкай саноўніцы, а так, як калісь, як той 14 ці 15-гадовай Надзі, пайсьці да старшыні менскіх народных камісараў (Мясьнікова, ці як звалі яго йначай—Мясьнікянца) і патрэбаваць, каб пісьмо зараз жа было пераслана ў Маскву Н. Крупскай...

Радзіў я ўсё гэта так сабе, каб чым-небудзь пацешыць няшчасную жанчыну, бо зусім ня верыў, каб што памагло яе мужу.

Матушка села пісаць пісьмо. Я разьвітаўся з ёю і з калежанкай З. і вярнуўся ў школу...

Трудна апісаць маё зьдзіўленьне, калі на 4-ты ці на 5-ты дзень пасьля гэтага зьявілася ў школу зусім паздаравеўшая наша калежанка З. і, перадаючы мне падзяку ад матушкі С., сказала, што яе муж—ведамы ўсяму Менску чорнасоценец — вярнуўся з Масквы жывым і здаровым.

*Краўцоў Макар*

праяву стыхійных, бунтарскіх сілаў. Вось чаму, нпр. падаваныя паэтам абразы розных стыхійных праяваў у прыродзе (буры, навальніцы, разьліў ракі падчас паводкі) зьяўляюцца сымбалямі рэвалюцыі. — Насупроць бальшавіцкай навукі і практыкі, паэт не тасуе клясавага падыходу да беларускае вёскі і ўсяго Краю. Беларусь у яго без клясавай дыфэрэнцыяцыі і без клясавай барацьбы. Побач з гэтым, жывым акордам б'ець з ягоных твораў сялянскі індывідуалізм, ідэалізацыя ўласнасьці і апяваньне індывідуальнай, апёртай на сыстэме хутароў, гаспадаркі. (Тады, калі пісаў Трус, асабліва ў першых гадох яго літаратурнай працы, праводзілася ў Савецкай Беларусі ў практыку новая эканамічная палітыка (НЭП), на вёсцы адбываўся працэс хутарызацыі). Апроч таго, насупроць бальшавіцкай навукі, у Паўлюка Труса, міма ягонага бязбожніцтва і агітацыі ў творчасьці супроць рэлігіі і духавенства, знаходзім элементы ідэалістычнага сьветапагляду і містыцызму.

Савецкая крытыка вуснамі прафэсара Піотуховіча (зьліквідаванага маскоўска - камуністычнымі ўладамі ў 1937 г. за беларускую „нацдэмаўшчыну"), характарызуючы ідэовы бок творства Паўлюка Труса раньняга пэрыяду (1924—1927 г. г.), так гавора аб паэце: „Паўлюк Трус нёс у сабе ўвесь груз сялянскай абмежаванасьці (чытай: беларускіх сялянскіх элемэнтаў — Я. Ш.) увесь цяжар дробна-буржуазнага (чытай: ідэалістычнага — Я. Ш.) сьветапагляду... Паўлюк Трус у падыходзе да сацыяльнай рэчаіснасьці, у сваім творчым мэтодзе ня мог узвысіцца над павярхоўнай эмпірыкай і схэматыкай. Паэт усьпявае кастрычнік (кастрычніцкую рэвалюцыю — Я. Ш.), але ён прымае яго на грунце вузкага эмпірычнага дасьведчаньня; ён няздольны раскрыць рухаючых сіл пралетарскай рэвалюцыі, пазнаць яе ва ўсёй супярэчнасьці і складанасьці клясавай барацьбы. Пролетарыят і камуністычная партыя... роля гораду амаль зусім не ўваходзяць у поле яго зроку"... (Праф. М. Піотуховіч: —*„Да характарыстыкі літаратурнай спадчыны П. Труса"* — *„Збор твораў П. Труса,"* Менск, 1934 г., бач. 13).

І ў пазьнейшым пэрыядзе творства паэта, з выняткам некаторых інтэрнацыянальных і камсамольскіх абстракцыйных фразаў, мае такі самы характар.

Паўлюк Трус у вельмі малым ліку твораў сваю ліру настрайвае на камуністычны тон, — надта мала маем твораў, дзе выражана пралетарская ідэолёгія, пры гэтым ў іх пралетарскія матывы пераплятаюцца з матывамі беларускага патрыётызму. Беларускі патрыётызм — гэта аснаўны тон лірыкі песьняра і ўсей ягонай творчасьці. Паэт безгранічна любіць Беларусь, родны край, беларускую вёску, прыроду.

Ён ставіць сабе за заданьне:

*зьдзейсьніць мэту*
*і золата дум*
*падарыць на карысьць Беларусі*
(*верш „Брату"*)

Ён дэкляруе:

*...душой гарэць*
*ў бурным моры жыцьця*
*Беларусі дарыць свае песьні*
(*„З студэнцкага дзеньніка"*)

а так-жа ўсё аддаць:

*за агняцьветы-зоры*
*за любы, родны крой,*
*так сэрцу дарагі*
(*„Ізноў я там"*)

Глыбака сялянскі паэт, Паўлюк Трус даў беларускай мастацкай літаратуры патрыётычныя творы—народныя ня толькі па духу, паводле свайго зьместу, яны народныя і з боку фармальнага. У шырокай ступені ў творчасьці сваей паэт скарыстаў з беларускага народнага фольклёру, з рознастайных стылістычных сродкаў народнай творчасьці.

Асабліва да ўспадобы паэту беларуская сялянская песьня:

*Эх,*
*песьня, песьня!*
*Я... ніколі*
*цябе забыцца не магу!*
*Ты смутна-ціхім тонам болю,—*
*ў палёх бяскрайніх твой разгул.*
*Ў палёх*
*шырокіх твае тоны,*
*быльнёг*
*дзе ўецца па гары,*
*дзе цінай тканыя загоны*
*купае сонца на жвіры.*
(*З паэмы „Сірата Алеся"*).

І яму ўдаецца перадаць тоны і рытміку гэтай песьні.

У нікаторых вершах ён зусім беспасрэдна стылізуе фальклёр, бяручы з яго і тэматыку і слоўна-мастацкія сродкі. —

Нелітасьцівая сьмерць забрала беларускай літаратуры і народу маладога ўталентаванага, вельмі творчага і плоднага песьняра, які ў працягу кароткага часу, бо толькі ў працягу 5 гадоў, значна ўзбагаціў скарбы беларускага мастацкага слова і культуры.

*Я. Ш.*

## Вясновая песьня

Гляну праз акенца
Я на прыгуменца,
Гляну у прывольле
На шырока поле.
Вясна-красна на дварэ.

Пад гарой пакатай
Малады Араты,
Сын сярмяжнай вёскі,
Мерна йдзе палоскай.
Вясна-красна на дварэ...

Гэй, буланы конік,
Заіржы сягоньня,
Будзь вясны вясёлкай
У полі на пасёлку.
Вясна-красна на дварэ.

Узару, пасею
Да й забараную, —
Буйнае насеньне
Хай расьце, красуе.
Вясна-красна на дварэ.

Няхай наша песьня
Коціцца прадвесьнем
Новым адгалоскам
Над кужэльнай вёскай.
Вясна-красна на ўвесь сьвет.

Песьня адгукнецца
У цішы даліны,
На грудзях краіны
Морам разальлецца.
Вясна-красна на ўвесь сьвет.

Гляну праз акенца
Я на прыгуменца
І пайду ў прывольле,
Дзе калосіць воля.
Вясна-красна на ўвесь сьвет.

*Паўлюк Трус*

# Ślady biełaruskaje minuŭščyny ŭ Horadni

Sapraŭdnaj našaj trahedyjaj jość niastača viedy ŭ šyrejšych masach ab svaich tradycyjach. Nie adnamu zdajecca, što biełaruski ruch heta zusim niešta novaje, niešta niapeŭnaje, što nia maje svaje minuŭščyny, jakaja źjaŭlajecca fundamentam usiakaha narodu, a nam tymbolš što adusiul padsoŭvajuć dumki, što „cely vaš ruch— heta stvorana na pačakańni vydumka, kab pamiašać u tvorstvie mahutnaści adnosnaha haspadarstva". I hetak rasiejskija imperjalisty chacieli ŭ nas bačyć „iścinno-russkich ludiej", a polskija nacyjanalisty „poczciwy ludek kresowy używający gwary białoruskiej". — U značnaj miery imknieńni henyja škodziać nam, i jość sialanie, jakija nazyvajuć siabie „tutejšymi" i tolki. Časam prosta stvarajuć nam taki nastroj, što byccam my znachodzimsia nie na svajoj ziamli, na pravoch Žydoŭ vandroŭnikaŭ. Pryčynaj hetaha źjaŭlajecca niedachop zacikaŭleńnia ŭ daśledžvańni svajej minuŭščyny. Dziela taho, bratka, kali budzieš u Horadni— zajdzi sam i susiedu pakažy carkvu na Kałožy i raskopki na staroj Zamkavaj Hary. Tam paznaješ, što my, naš narod biełaruski, pradziedami našymi ŭraśli hłyboka ŭ hetu ziamlu. Pradziedy našy ŭ rodnaj movie prad sotniami hadoŭ ładzili tut svoj paradak. Tut astalisia ślady ich mahutnaści ŭ formie henych adkopkaŭ. Užo karol polski Ściapan Batura, ab jakoha mahutnaści šmat viedama, pastaviŭ svajo zamčyšča ŭ Horadni na staradaŭnych biełaruskich fundamentach, jakoje źjaŭlajecca budyninaj małodšaj ad biełaruskich na 500 hadoŭ.

U historyi chiba niama nivodnaha narodu z hetak zaciortymi etnahrafičnymi hranicami, jak Biełarusy. Apošnija adnak dziesiatki hadoŭ prablemu hetu papchnuli krychu napierad. Pry tym šmat śviatła tut kidajuć apošnija vykapki na Zamkavaj Hary ŭ Horadni.

Starynnaść hetaha miesta była daŭno ŭžo viedamaja, ale niejak imhlista,biez navukovych daśledaŭ. Było mnoha lehiendaŭ i roznych chaotyčnych viestak i na hetym kaniec. Ciažka było tolki vyrašyć prablemu carkvy na Kałožy. Heta kankretnaja i siańnia isnujučaja budynina z pačatku XII stahodździa. Urešcie spravaj minuŭščyny Horadni zacikaviŭsia Jodkoŭski. Jon vydaŭ monohrafiju miesta ŭ knižcy „Grodno". Sam aŭtor —stały žychar Horadni, syn stalara, dziakujučy svajej lubovi da rodnaha miesta, staŭsia jaho vialikim apiakunom. Vialikim jaho čynam było miž inšym adkryćcio historyčnaha vykapališča na „Švedzkaj Hary" kala Vaŭkavyska, dzie znajšoŭ pryhožyja matarjały ŭ starynnym aružžy. Adnak slavu ŭ poŭnym hetaha slova značeńni Jodkoŭskamu pryniaśli vykapki ŭ samaj Horadni na Zamkavaj Hary. Historyja hetych vykapkaŭ davoli aryhinalnaja.

Na jubilei naradzinaŭ Ściapana Batury ŭ 1933 h. śviatkavalny Kamitet pryniaŭ pastanovu, kab h. zv. „Stary zamak", jaki znachodzicca na ŭspomnienaj hary, pastaŭleny karalom Baturym, adnavić. Pobač z pracaj pry samaj budyninie mieŭ być uparadkavany zamkavy panadvorak ad usialakaha rodu hruzu. Škidajučy hetak hruz, spaściehali, što znajšlisia na śladoch niejkaha muru. Zacikaŭleńnie hetym daviało da niespadziavanych vynikaŭ. Akazałasia, što zamčyšča Batury znachodzicca vyšej na 5—6 metraŭ. Da časoŭ jaho tut užo šmat razoŭ byli staŭlenyja i buranyja i iznoŭ staŭlenyja budoŭli.

Całaść adkryćcia pradstaŭlajecca hetak: na najhłybiejšym pasadzie znachodziacca ŭ zusim dobra zachavanaj formie reštki zamčyšča, a ŭ jaho ramach kaplica, bizantyjskaha stylu, z zusim dobra zaznačanym raskładam pamiaščeńnia. Matarjał budaŭlany — cehła bizantyjskaja, tonkaja, šyrokaja i doŭhaja, masa užyvanaj murarskaj zapravy, rezanaty, płytki, jakimi byli vyłažanyja ścieny,—zachavaŭ, prosta cudoŭna, śviežaść svaich koleraŭ až da siańniašniaha dnia i śviedčyć, što pachodzić jon z XI—XIII stahodździaŭ.

I tut vyrašyłasia prablema paŭstańnia carkvy na Kałožy. Akazałasia, što jana źjaŭlajecca dokazam kulturnaj vyšyni tahočasnaj Horadni. Heta ściardžaje, što chryścijanstva i kultura pryjšli siudy, kali nie paźniej čym u Kruśvicu i Paznań, dyk u kožnym razie na całyja stahodździ raniej pierad chrostam Jahajły. Znojdzienyja ślady ŭpłyvaŭ narmandzkich u postaci manetaŭ, bižuteryi i inšych rečaŭ śviedčać ab znosinach z poŭnačaj z adnaje starany, a z Kijevam i paŭdzionnymi krajami z druhoj starany. Kultura była ŭžo tady vysokaja i krasavałasia joju Horadnia viadučy kraj da słavy.

Urešcie pryjšoŭ kaniec słaŭnaj, jak jaje zavuć, „epochi Stara-Ruskaj", spryčynieny napadami litoŭskimi, ci jak inšyja dumajuć napadami tatarskimi Vialiki lik kaściatrupaŭ znojdzienych na całaj płoščy staroha zamčyšča i kaplicy dy asmalenyja mury śviedčać, što byli tam strašennyja zmahańni.

Nastupaje druhaja epocha—litoŭskaja. Paŭstali tady budoŭli dzieraŭlanyja. Z henaha času znojdzieny miž inšym u ruinach kamień, dziŭnaha farmatu i niaviedamaha praznačeńnia. Byŭ heta byccam achviarny kamień Kryve-Kryveite. Pobač staroj, daŭnaj kaplicy była vialikaja jama, poŭnaja ludzkich kaściej — heta majuć być strašnyja ślady kryvavych achviaraŭ dla litoŭskaha



Carkva na Kałožy ŭ Horadni z XII stahodździa.

pahanskaha boha Perkunasa. Žyćcio hetaj epochi šmat razoŭ pieraryvana, ab čym havorać mnohija šlady pažaraŭ, jakija vidać časta tam paŭstavali. A što paŭstavali ŭ suviazi z abaronaj, śviedčyć fakt znachodu pry rehulacyi Niomna, nad jakim staić zamčyšča, kamiennnych kulaŭ pachodžańnia z časoŭ Kryžanoscaŭ.

Urešcie i heta epocha pakryłasia popiełam zaniapadu i biezpamiaci. Nastaŭ tady novy peryjad u historyi Horadni — kniaziavańnie Vitaŭta Vialikaha. Vitaŭt pobač pabudavańnia pieršaha kaścioła łacinskaha abradu, katory isnuje i da siańniašniaha dnia, ale ciapier užo nazvany „kościołem garnizonowym", i pałacu na pamieškańnie, zbudavaŭ taksama na henaj-ža Zamkavaj Hary abaronnaje zamčyšča, častkova na starych fundamentach. Tut užo bačym ułučanuju da budaŭnictva cehłu zusim inšych raźmieraŭ i šmat inšych asablivaściaŭ architektury. Nia doŭha adnak słaviłasia krasoj zamčyšča Vitaŭta. Chutka jano było zrujnavana, ale ŭ jakich abstavinach — dasiul niaviedama.

Ńa hruzach Vitaŭtavaha zamčyšča pabudavaŭ svajo zamčyšča Ściapan Batura i hety budynak isnuje da siańnia.

Vykapki ŭ Horadni dasiul jašče nie zakončany. Ale toje, što jany ŭžo dali, kidaje śviatło na minuŭščynu hetaha kutka našaha kraju i śviedčyć, što našy biełaruskija pradziedy nie astavalisia z-zadu inšych susiednich narodaŭ, a ich vypieradžali. Vykapki śviedčać, što my tut nie ad učarašniaha dnia. Tut žyŭ naš narod biełaruski z-davion-daŭna i mieŭ svaju słaŭnuju kulturu, prad jakoj chilać čało vučonyja daśledčyki adkopvajučy jejnyja pamiatki. I heta pavinna być nam prynukaj da paznavańnia minuŭščyny i budavańnia budučyni.

*Stasiuk z nad Niomna*



* * *

*Ах, не магу я ніяк пагадзіцца*
*з гэтай трывогай, што бродзіць цяпер.*
*Страшна мне дум,*
*што плывуць навальніцай,*
*ад іх галавы не схаваеш ў каўнер.*

*Пэўне ў разгоне зямля ашалела.*
*Розум,*
*сумленьне*
*і сэрца маўчыць.*
*Ці для таго толькі трэба быць сьмелым,*
*братняе сэрца каб*
*штыхам прабіць.*

*Едзе Народ да Народу у сваты —*
*сватаюць „згоду" планэты усей.*
*„Круппы" рыхтуюць тымчасам гарматы*
*і дынаміт закладаюць глыбей.*

*Імем мільёнаў гутораць адзінкі —*
*даў Ты ім, Божа, уладу і моц.*
*Заўтра затканае чорнай касынкай,*
*бродзіць трывога*
*і сыпецца з воч.*

*М. МАШАРА*

## Туман

*Туман павіс над мерзлаю зямлёю,*
*Заслонаю сівой завесіў зьзяньне зор,*
*Заліў ўвесь сьвет якбы жывой вадою*
*І патанулі хаты, дрэвы, цёмны бор.*

*Ды хаты аганькамі пранізалі прастор,*
*Як-бы шукаючы адна другое*
*І — праз заслону сіву—зьзяньне зор...*
*Туман павіс над мерзлаю зямлёю.*

*Я. Крыга*

## Песьні

*Праз пушчы, балоты, даліны і горы*
*Да сонца у высі па краю у даль*
*Ўсё песьні ляцяць па радзімым прасторы,*
*З хуткасьцяй ветру і з бурнасьцяй хваль.*

*Хай выюць—нясуцца ўраганы, сомумы —*
*Жахацца прад імі ня нам маладым,*
*Да іхняга гоману песьню сваю мы*
*Далучым, і з імі ужо загрымім.*

*І будзяцца сонныя рэхам разлогі,*
*Узносяцца гімны сьвятла перамог —*
*Ня знаем з песьнямі ў працы зьнямогі,*
*Ня маем у сэрцы сумліву, трывог.*

*Над Нёмнам, над Шчарай, Вяльлёй і Дзьвіною*
*Раскотам нясецца напеў маладых,*
*Злучае ўсіх думкай і мэтай адною,*
*Сьвятою надзеяю жывіць усіх*

*Хоць часам схаваецца сонца за хмары,*
*Панурыя цені кладуцца на край —*
*Прагоніма песьняй злуджэньні і мары*
*І створым вясьняны, расквечаны май.*

*Аркадзь Заранка*

# РЭЛІГІЙНЫ ПРАВАСЛАЎНЫ КАНЦЭРТ

9 сакавіка сёл., за прыкладам мінулага году, у залі б. кансэрваторыі ў Вільні адбыўся пад пратэктаратам архіепіскапа Хвядоса рэлігійны праваслаўны канцэрт хору віленскага Катэдральнага Сабору пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы. Трэба адразу сьцьвердзіць, што сёлетні канцэрт стаяў на яшчэ вышэйшым ровені, чымся леташні. Праграма канцэрту абыймала творы цяжэйшыя для выкананьня і прыгажэйшыя. Хор сёлета быў лічнейшы, сільнейшы і выкананьне было лепшае. Гэта фактычна ёсьць характэрным для працы грам. Шырмы, каторы пачатай раз добрае работы ня кідае, а далей яе разьвівае.



Праф. А. Кошыц

Найбольш прыгожымі былі славянскія песьні праф. Кошыца, Вэдэля ў рэдакцыі таго-ж Кошыца, Львова і Турчанінава, а перад усім беларускія калядкі, каторыя былі мілай і дарагой навіной.

Чужыя ўплывы ў рэлігійным жыцьці Беларусаў праваслаўных, а таксама і каталікоў стварылі такі настрой, што быццам у Беларусаў няма сваіх арыгінальных рэлігійных песьняў, а тольki пераклады. Тымчасам, калі адгорнем навеяныя чужымі вятрамі пяскі і заглыбімся ў нашыя культурныя багацьці, знаходзім сапраўдныя пэрлы. Такой пэрлай ёсьць, між іншым, калядка „Прэсьвятая Марыя," якую так стройна згарманізаваў слаўны кампазытар Кошыц, а хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы так памастацку выканаў, што здабыла яна сярод шматлікай публікі на канцэрце найбольш воплескаў. Калядка гэна прадстаўляе сабой сапраўды нязвычайную вартасьць, як сваей мэлёдыяй, так укладам і зьместам. Чаго ў ёй толькі няма? — І сьпеў хору ўва ўсю магчымасьць галасоў, і сьпеў солё, і дуэт, і мэрморандум. Словам, песьня на ўсе лады. Стройнай так-жа была і другая беларуская калядка „На Іордані," згарманізаваная праф. Галкоўскім.

Агулам канцэрт рэлігійны вельмі ўдаўся. Вялікая-ж папулярнасьць беларускіх калядак заахвоціць хіба як кампазытараў, так і зьбіральнікаў беларускіх народных песьняў зьвярнуць большую ўвагу на адкопываньне, на адраджэньне беларускіх рэлігійных твораў.

*Я—к*

# PRAVAKACYJA

Viedamy z roznych sensacyjaŭ „Ilustrawany Kurjer Codzienny", jaki nia tak daŭno šyroka raspisvaŭsia ab nikomu niaviedamym, byccam niamieckim, prajekcie stvareńnia biełaruskaha maleńkaha haspadarstva, na padabienstva Karpackaje Ukrainy, u ciapierašniaj Łatvii p. n. „Kryvija", u № 55 z 24.II.39 h. u artykule „Seperatystyczne ziarna na białoruskiej glebie" padaŭ novyja sensacyi. Hetym razam „IKC" napadaje miž inšym na „Šlach Biełaruskaha Studenta" i Biełaruski Studencki Sajuz, prypisvajučy im roznyja niabylicy, jak ažyleńnie ŭ suviazi z nadziejami na „Kryviju," i toje, što byccam BSS znachodzicca pad upłyvam studentaŭ Ukraincaŭ.

Najlepšy adkaz na ŭsio heta faktyčna dało samo žyćcio i apošnija padziei, katoryja pakazali, što Hitler nia tolki nia tvoryć novych haspadarstvaŭ, a navat dapuściŭ da likvidacyi Karpackaje Ukrainy, ab kataraj polskaja presa pisała, jak ab tvory niamieckim. Kali adnak pryhledzimsia bližej da ŭsiaje akcyi „IKC" — paraŭniajem artykuł ab Kryvii z artykułam ab tym, što byccam Biełarusy ŭ Vilni dziela nadziejaŭ na Kryviju ažyvili svaju dziejnaść, — dyk pabačym, što ŭsio heta źjaŭlajecca brudnaj pravakacyjaj dziela vyklikańnia specyjalnaha nacisku ŭładaŭ na Biełarusaŭ. Što ŭsia pisanina ab bieł. spravie „IKC" jość pravakacyjaj, śviedčyć tak-ža i toje, što dasiul nie źmiaściŭ jon zapiarečańnia Uradu Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu, u katorym skazana, „što studenty Ukraincy nikoii na nijakich arhanizacyjnych sabrańniach BSS nia byvajuć, a tak-ža, što Bieł. Stud. Sajuz nie paddajecca nijakim čužym upłyvam i nia maje nijakich vonkavych daradčykaŭ.

*n.*

**Uvaha! Uvaha!**

Dasiul mnohija z našych čytačoŭ nie apłacili jašče padpiski na 1939 h., dziela taho ŭsich vietliva prosim zrabić heta jak najchutčej, bo ŭ praciŭnym vypadku dalejšaja vysyłka „Šlachu Moładzi" budzie im ustrymana.

Pamiž akuratnymi padpiščykami buduć razlosavany cennyja permii.

*Administracyja „Šlachu Moładzi"*

# ГОД ПЕРАКЛІЧКІ

Буйны Год! Багаты год! Год падняўшы найглушэйшыя куткі вёскі з роднаю песьняю на вуснах. Густа зарунеў ён на балонках часапісаў страхануўшымся сялянскім літаратурным маладняком.

Ня гледзячы на ўсе перашкоды, на сталёвыя абцугі жахлівага сялянскага бяздольля, грыміць маладняк.

Муселі аб ім загаварыць! Муселі загаварыць — бо маладыя іх голас званіў ужо шыбамі заглохшых мяшчанскіх камяніц.

А гаварыць ёсьць аб чым!

Паэзія А. Іверса, Дубровіча, Ніны Тарас, П. Сіраты, Я. Крыгі — гэта ўжо ня першыя няздарныя шагі. Гэта ўжо больш менш самастойныя арыгінальныя паэтыцкія таленты, якія ў іншых больш спрыяючых жыцьцёвых абставінах даўно ўжо мелі-б не адзін зборнік твораў. Тое, што друкуецца ў такіх літаратурных часапісах, як „Калосьсе,“ „Беларускі Летапіс“ — гэта толькі маленькая частка іхніх твораў.

Адазвалася мацней чарада малаведамых старэйшых маладняковцаў, як: Н. Жальба, М. Засім, Чаромхін, А. Мілюць, Рагойша, Я. Жук, Званар, Ар. Заранка... Ставяць свае першыя шагі: Ганна Новік, Воўк, К. Бунтарны, Я. Чорны, С. Ярына, Рудко, Я. Каліна, Я. Бунтар, Крывіч і іншыя на балонках „Шляху Моладзі.“

Ад Пружаншчыны—Горадзеншчыны аж па Браслаўскія і Пастаўскія пяскі — пачалася пераклічка маладых.

Расьцярушаны, без падмогі сваей літ. арганізацыі, аддзелены кітайскай сьцяной ад усякіх культурных здабыткаў нашага веку пяе беларускі маладняк! Пяе бяз кніжкі, бяз літаратурнай прэсы, без магчымасьці шліфаваць свае літ. здольнасьці здабыцьцём тэхнікі, правілаў вершаваньня, пісаньня; пры абсалютнай немагчымасьці знаёміцца з клясыкамі свайго і іншых культурных народаў, а тым больш з сучаснымі напрамкамі ў літаратуры; адасоблены ад літ. жыцьця і літар. арганізацыі суседніх народаў. Аднак упарта прабівае свой шлях да сонца — нясучы з сабой пошум залатых пшанічных дзён Будучыні.

Шмат гіне па дарозе, але ўсьцяж вырастаюць новыя і ўпарта прадоўжываюць пачатую работу.

Ідзе пераклічка! Растуць новыя сілы!

І ласьне 1938 г. быў годам такой пераклічкі, каб ацаніць свае сілы, згуртавацца, падзяліцца набалеўшымі думкамі, пазнаць адзін аднаго; адшукаць, — памагчы, асабіста, лістоўна... Каб чуліся сябрамі, дзяцьмі аднэй сям'і, а не паасобнымі нікім незразумелымі, нікому няведамымі вандроўнікамі.

Мы—сялянскі літаратурны маладняк. Найбалючэй адчувалі ў прошлым годзе адсутнасьць свайго літаратурнага часапісу— варштату, дзе можна было-б шырэй выступаць з сваімі творамі, дзе маглі-б знайсьці фаховыя артыкулы ў літаратурных справах, а так-жа літаратурныя весткі аб іншых народах.

Адзіны часта ў нас выходзячы „Шлях Моладзі“ толькі ў дробнай частцы апошнім часам мог пасьвяціць свае бачыны на гэтыя справы. Дзеля таго сёньня ў дзесятыя ўгодкі выхаду першага нумару „Ш. М.“ трэ' пажадаць, каб літаратурны аддзел „Шляху Моладзі“ пашырыўся, пасьвячаючы больш месца на творства наймаладзейшых, для якіх „Шлях Моладзі“ зьяўляецца адзіным варштатам і арэнай публічнага выступу. Пажадана такжа, каб „Бел. Летапіс“ скінуў сваю вопратку акадэміцкасьці і даваў больш сваіх бачын пачынаючым. Пажаданьні гэтыя пацьвердзіць увесь сялянскі літаратурны маладняк.

*С. Хмара*

## Iznoŭ ja tam

Iznoŭ ja tam,
Dzie pad aknom try klony
Manisty-namitki
Schilili na karniz;

Dzie ja ŭ samotnaści,
Pad šum viasny zialonaj,
U smutku j radaści
Pravioŭ dziacinstva dni.

Dzie ja ŭ zabytnaści,
Jak padarožny lirnik,
Z niadolaj-mačychaj
Paznaŭ malenstva sny.

Ja tyja dumy-sny
Budziŭ na strunach liry,
Kab nie zaviaŭ uśmiech,
Čaroŭny ŭśmiech viasny.

Dyk voś čamu j ciapier
Nie razlubić nikoli
Taho, čym serca
Niekali žyło.

Tam travy ŭ tumanoch,
Viatry šumiać u poli,
I dremle ŭ nakvieci
Na schonach niŭ sioło.

— Sioło... Sioło...
A za siołom prastory,
A za siołom nitujucca
Puciny i šlachi.

Addam siahońnia ŭsio
Za ahniaćviety-zory,
Za luby, rodny kraj,
Tak sercu darahi.

Addam žyćcio
I lepšyja chviliny,
Bo dla mianie jany
Nia viečnyja ŭ žyćci.

Dapju bakał zary
Za maładość krainy,
Kab na žyćciovy brud
Zabycca ŭ niabyćci.

Kab kropli bujnych śloz
Na letaćviet apali,
Apali barvami,
Splali žyvy vianok.



Tałaka pry ekspedycyi „Šlachu Mołady“

Tamu ŭ maŭklivaści
Imknucca dumak chvali
Pad śvietaścieniami
Całujuć žvir i dno.

Tamu ŭ samotnaści
Ja maru i dziŭlusia,
Dziŭlusia ŭviečary
Ŭ prastor paloŭ, nizin.

Tam zory jarkija
Harać nad Biełaruśsiu,
Harać i padajuć
U załaćviet raŭnin.

Tam sonca ŭśmiech,
A na hary — pasiołki,
Majdan kałyšacca
Ŭ pialostkach lebiady...

Navošta-ž płač,
Navošta płač poety,
Kali žyćcio — paryŭ
Adviečnaje krasy.

Kažu, pajduć hady,
Zabuducca padziei,
A karabli pływuć,
Pływuć za rubiažy.

Dyk voś čamu ŭ dušy,
Ŭ dušy harać nadziei,
Dyk voś čamu ŭ žyćci
I chočacca tak žyć.

Iznoŭ ja tam,
Dzie pad aknom try klony
Manisty-namitki
Schilili na karniz.

Dzie ja ŭ samotnaści,
Pad šum viasny zialonaj
U smutku j radaści
Pravioŭ dziacinstva dni.

PAŬLUK TRUS

## *Парой*

*Ідуць!*
*Бягуць*
*За днямі дні;*
*Парой*
*Дум рой*
*Нясуць яны.*

*Век мод*
*Свабод —*
*Дваццаты век,*
*Дзе стань,*
*Дзе глянь —*
*Пабачыш зьдзек.*

*Забраць...*
*Прагнаць...*
*Пачуеш весьць;*
*Пытай,*
*Шукай,*
*Дзе праўда ёсьць?*

*Там п'юць*
*Ды б'юць*
*Свае свайго;*
*Там здрад*
*Ёсьць рад*
*І шмат чаго!*

*А. Жук*

# Vybary i karanacyja Papy Piusa XII

*(Ad našaḅa rymskaḅa karespandenta)*

2 sakavika sioleta, jak usim užo viedama, kanklave ŭ składzie 62 kardynałaŭ u trecim hałasavańni vybrała Papiežam J. E. kard. Pačell'aha, Italjanca-Rymlanina. U heny važny mament vybaraŭ byŭ ja na placy śv. Piatra



**Papa Pius XII**

ŭ Rymie. Tysiačy ludziej ŭhladałasia na bazyliku śv. Piatra — na trubku, praz katoruju mieŭ pakazacca dym abo biełу abo čorny. Pieršy aznačaje, što papiež užo vybrany, druhi—„jašče pačakajcie!"

Voś-ža los sudziŭ mnie bačyć dym tolki čorny, dziela taho, što dumaŭ, što papy tak chutka nia vybiaruć i na chvilinu vyjšaŭ z placu śv. Piatra. Až tut niechta kaža: Jość papa!.. Dyk ja hałavy čuć nia skruciŭ biahučy da bazyliki śv. Piatra. U darozie-ž kažu Italjancu: jość papa! Jon krucić hałavoj. Paśla začynajem zhadyvać, chto. Ja kažu: „Pačelli." Italjaniec-fašyst krucić nosam i ani krychu nia choča zhadzicca. Jak hałoŭny arhument padaje, što z sakrataroŭ stanu papy nia byvajuć, dy i Hitler—kaža—Pačell'aha nia choča... Prybiehli my na plac śv. Piatra tady, kali ŭžo było bahasłavienstva: Urbi et Orbi (Rymu i śvietu). Niejki kleryk chvataje mianie za pału i kryčyć: „Pačelli! Pio XII." I pabieh dalej toj krykun, a taŭpa narodu pavoli pačynała aparažniać plac. Zvany-ž bazyliki raznosili radasnuju navinu.

Nos spuściŭšy varočaŭsia damoŭ: było žal, što spaźniŭsia na samy važny mament. Dumaŭ ja pabiełarusku, stałasia ŭsio paitaljansku... Ale chtož moh viedać?! Navat taki žart chodzić ciapier u Rymie ab adnym kardynale. Pažyčyŭ jon pierad konklave na 3 dni svajmu znajomamu aŭtamabil. Kali ŭ praciahu adnaho dnia vybrali papu—dyk nia viedaŭ, što rabić: konklave končyłasia, a patrebnaha aŭta nia było, bo toj znajomy najmienš jašče moh 2 dni vazicca! —

Kali zychodzili my z placu śv. Piatra, to ŭžo pradavalisia hazety z fatahrafijaj Ajca Śv. i z doŭhim jahonym žyćciapisam. A hazetčyk Italjaniec kryčaŭ, jak niaprytomny ab novym papu.

Pryjšoŭ dzień 12.III. dzień karanacyi Ajca śv. Siak-tak, nia samy lepšy, ale ŭsio-ž dastaŭ i ja bilet być na hetaj uračystaści i pastaraŭsia tak, kab jak najraniej być užo ŭ bazylicy. Davoli ŭdałosia. Bačyŭ usio, jak na dałani. Samyja pieknyja mamenty byli, kali Ajca śv. unosili ŭ bazyliku i kali karanavali na balkonie tojža śviatyni. Praŭda, padčas uračystaj słužby i naahuł, kali treba było malicca, nia mnoha znajšłosia takich pabožnych! Zatoje ŭsie, jak mahli, kryčali, bili ŭ dałoni — prosta tak zachoŭvyvalisia, jak Biełarusy zachoŭvajucca ŭ lesie! Sapraŭdy, u vary kupanyja hetyja Italjancy! Ale ŭsio heta robicca ŭ ich ad serca, ščyra. Umiejuć i maŭčać, adnak tolki mnoha karaciej, čymsia mohuć kryčać.

Z Biełarusaŭ mnie viedamych byli na ŭračystaści: a. Cikota, a. J. Hermanovič i a. Maskalik, hety apošni pryjechaŭ z Niamieččyny.

Vybary ciapierašniaha Ajca śv.. i karanacyja adbylisia spakojna, biaz nijakaha nacisku sa starany ŭłady śvieckaj. Dobry heta znak pavahi da apostalskaha pasadu ŭ čas roznych dyktaturaŭ i balšavizmu...

Rym, 18.III.1939 h.

**Vasil Kryvičanin**

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**21-ja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi.** 25.III.39, u 21-ja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi, Biełaruski Studencki Sajuz u Vilni mieŭ sarhanizavać specyjalnuju akademiju dziela ŭšanavańnia hadaŭščyny najvialikšaha biełaruskaha Aktu 25.III.1918. U suviazi z hetym była padana prośba ŭ spravie dazvołu da universyteckich uładaŭ, katoryja adnak z pryčyny feryjaŭ dali adkaz admoŭny.

**Ahulny schod T-va „Biełaruskaje Katalickaje Vydaviectva".** 13 h. m. adbyŭsia ŭ Vilni ahulny hadavy schod T-va „Biełaruskaje Katalickaje Vydaviectva". Paśla spravazdačy ŭradu z dziejnaści za minuły hod vybrany novyja ŭłady Tavarystva na 1939 h. na čale z mgr. J. Šutovičam. Dasiulešniamu staršyni hetaje arhanizacyi, ks. Ad. Stankieviču, a taksama siabru inž. A. Klimoviču, za ich achviarnuju pracu ahulny schod pastanaviŭ vysłać padziaku.

**Viečar biełaruskaje litaratury.** 10.III siol. u pamieškańni Navukova-Daśledčaha Instytutu Uschodniaje Eŭropy ŭ Vilni adbyŭsia viečar biełaruskaje litaratury, padčas jakoha referaty ab biełaruskaj litaratury čytali: dyr. A. Łuckievič i mgr. Chv. Iljaševiš, a Maksim Tank pracytaŭ niekalki tvoraŭ svaich, Mašary, Arsieńnievaj, Iljaševiča, Vasilka i inš.

**Ks. J. Hermanovič vyjechaŭ u Charbin.** Daviedvajemsia, što viedamy biełaruski piśmieńnik ks. J. Hermanovič (Vincuk Advažny), jaki sioleta prabyvaŭ u Rymie, vyjechaŭ adtul praz Marsyliju(17.III) na Daloki Uschod u m. Charbin (Mandžuryja), dzie pracuje biełaruskaja misija pad kiraŭnictvam J. E. a. F. Abrantoviča.

**Rekalekcyi dla Biełarusaŭ Katalikoŭ u Vilni** adbylisia sioleta 23, 24 i 25 sakavika ŭ kaściele śv. Mikałaja. Kiravaŭ imi małady biełaruski duchoŭnik a. Šnip.

**Ahulny schod Aśvietnaha T-va Biełarusaŭ u Varšavie.** 12 h. m. u Varšavie adbyŭsia ahulny hadavy spravazdaŭčy schod Aśvietnaha Tavarystva Biełarusaŭ, u časie jakoha, miž inšym, vybrany novyja ŭłady. U ŭrad uvajšli: J. Hapanovič — staršynia (paŭtorna vybrany), dr. M. Orsa — vice-staršynia, P. Łastaŭka — sakratar, M. Vituška — skarbnik, Turakievičanka i Bakun—siabry ŭradu. U Revizyjnuju Kamisiju: Rahula, Karkazianka i Šlachtun. U Tavaryski Sud: Čatyrka, Łatyšonak i Brachun. Treba skazać, što Aśv. T-va Biełarusaŭ viadzie davoli vialikuju kulturnuju pracu siarod biełaruskaje varšaŭskaje kalonii.

**Lekcyi ŭ BSS.** 11 h. m. u Bieł. Stud. Sajuzie ŭ Vilni stud. V. Papucevič pračytaŭ cikavy referat ab słaŭnym biełaruskim Statucie Vialikaha Kniaźstva Litoŭskaha.

**Kurs biełarusaviedy,** viedzieny Bieł. Stud. T-vam Pryjacielaŭ Biełarusaviedy ŭ Vilenskim Universytecie, z pryčyny Vialikodnych studenckich feryjaŭ budzie na adzin miesiac pierarvany, a paśla adbyvacca budzie dalejšy jaho ciah.

**Dakarmlivańnie vučniaŭ Vil. Biełaruskaj Himnazii.** Ciažka žyviecca ŭsim Biełarusam, a moładzi, što vučycca, najhorš dakučaje hoład. Sioleta heta dahledzili ŭžo školnyja ŭłady ŭ Vilni i samaŭradavyja ŭstanovy, jakija 30 hałodnych vučniaŭ Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii praz ustanovu hramadzkaj pomačy pry Vilenskim Mahistracie stała ad 1 lutaha siol. dakarmlivajuć.

**Ahulny schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ.** U niadzielu 2-ha krasavika sioleta ŭ pamieškańni Biełaruskaje Himnazii, a hadz. 17-taj, adbudziecca ahulny hadavy schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ u Vilni. Prysutnaść siabroŭ abaviazkavaja.

**Biełaruskija vialikodnyja paštoŭki.** Dziakujučy starańniam biełaruskich žančyn u Vilni, hetymi dniami vyjšli z druku 4 novyja biełaruskija vialikodnyja paštovyja kartki (pisulki). Na pisulkach hetych u roznych kolerach nadrukavany ŭzory biełaruskich pajasoŭ, a taksama biełaruskija pisanki (razmalavanyja vialikodnyja jaječki z biełaruskimi ŭzorami). Pisulki vielmi strojnyja i zasłuhoŭvajuć na jak najbolšaje pašyreńnie. Cana adnaje pisulki 20 hr. Hałoŭny skład: Biełaruskaja Kniharnia „Pahonia" — Vilnia, Zavalnaja 1.

**Tryvožnyja viestki z Savieckaj Biełarusi.** Nadoviačy atrymany ŭ Vilni novyja tryvožnyja viestki z Sav. Biełarusi, dzie kamunisty pravodziać dalejšuju „reformu" biełaruskaj hramatyki i pravapisu ŭ kirunku absalutnaha zbližeńnia biełaruskaha jazyka da jazyka rasiejskaha.

---

†

Сьв. п.

**ГАЛІНА К.**

**жонка бел. паэта М. Васілька**

памёрла 17 сакавіка 1939 году, маючы 27 гадоў, у в. Баброўня, Горадзенскага пав., прахварэўшы на сухоты 3 г. Асіраціла малога сынка.

**Вечны Ёй супакой!**

---

## † LUDVIK ABRAMOVIČ

9.III.39 h. pamior u Vilni, majučy 64 hady, śv. p. redaktar Ludvik Abramovič. Pachodziŭ jon z staradaŭnaj polskaj šlachty. Žyŭsia z Vilenščynaj i z usimi ziemlami byŭšaha Vialikaha Kniaźstva Litoŭskaha. Dla dabra ŭsich narodaŭ hetych ziemlaŭ paśviaciŭ usio svajo žyćcio.

Viedamy byŭ, jak polski patryjot-krajoviec. Krajovuju ideolohiju raźvivaŭ u roznych polskich demakratyčnych časapisach, jakich jon byŭ redaktaram. Pa vajnie vydavaŭ u Vilni „Przegląd Wileński", u jakim advažna, konsekventna i česna pravodziŭ krajovuju ideolohiju. Hetaj jaho ideolohii apośnim časam z Palakoŭ nie padtrymlivaŭ nichto. Jon adnak sam adzin astaŭsia jej viernym až da śmierci. „Przeglad Wileński" pierastaŭ vydavać u prošłym hodzie, złomany ciažkoj chvarobaj i palityčnymi abstavinami.

Aprača pracy ŭ hazetach, śv. p. L. A. układaŭ tak-ža i knižki. Sabraŭ i vydaŭ: „Problem Litvy podczas vojny śviatovej. Żbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p.", a tak-ža: „Cztery vieki drukarstwa w Wilnie (1525—1925)". U vadnej i druhoj knižcy nia mała znachodzicca matarjału, jaki datyča biełaruskaj palityki, historyi i kultury.

Śv. p. L. Abramovič byŭ praŭdzivym rycaram idei. U Biełarusaŭ, nia hledziačy na toje, ci chto z im zhadžaŭsia, ci nie, zdabyŭ jon sabie zasłužanuju česć i pašanu.

Pachavany śv. p. L. Abramovič u Vilni, na Rosach.

Viečnaja Jamu pamiać!

24 h. m. u Vilni, u zali Biblijateki im. Vrubleŭskich, adbyłasia ŭ česć pamiaci red. L. Abramoviča ŭračystaja žałobnaja akademija, na jakoj byli i pradstaŭniki Biełarusaŭ

# З КРАЮ

## З жыцьця Дзісьненшчыны

**Мікалаеўская вол., Дзісьненскі пав.** Аб нашай ваколіцы ў прэсе вельмі мала калі спатыкаюцца весткі. Восьжа ў Дзісьненшчыне, як і наагул на нашых землях, жывецца даволі цяжка. Перад усім адчуваецца брак зямлі. Аб зямельнай рэформе ў нас ня чуваць, хоць усюды, дзе вокам ня кінь,—двары, маёнткі, лясы, імхі — панская ўласнасьць. Вёскі надмерна заселены людзьмі, у кожнай амаль хаце 1—2 мужчыны, якім нечага рабіць, а пабочных заработкаў не знаходзіцца. Сажань дроў каштуе 40 зл., ды і тых не хапае, а на будоўлю, дык трудна знайсьці. Коопэрацыя ў нас амаль зусім не разьвітая, ува ўсей паўночнай Дзісьненшчыне толькі некалькі коопэратываў, ды і тыя польскія, дык да іх нашыя сяляне прыступаюць неахвотна. Малачарняў ёсьць толькі некалькі і абслугоўваюць іх вельмі малы лік гаспадароў. Санітарная помач нездавальняючая. Бальніца ў Дзісьне не пасьпявае абслугоўваць хворых. Вэтэрынараў-дохтараў як і няма. Стан дарог страшны. Увосені і вясной — ані з хаты, хоць што год напраўляюцца. Сеецца тут найбольш лёну, які зьяўляецца галоўнай крыніцай даходаў у гаспадарцы. У абрабляньне лёну-валакна ўкладаецца шмат працы, аднак несарганізаваная продаж часта дае малы даход. Пажычковыя касы ня прыносяць карысьці. Ральнічыя „кулкі“ разваліліся, бо з іх нашаму селяніну ня помач, а немач. Аграномы прыяжджаюць толькі да некалькіх гаспадароў. Школы тут рэдка, ды і тыя польскія, мала карысныя для беларускіх дзяцей. Народных дамоў няма. Да вышэйшай асьветы нашай моладзі цяжка дабіцца. У Дзісьненскай гімназіі вучацца пераважна дзеці асаднікаў. Манапольку і продаж тытуну, дзе-б ня быў, то знойдзеш тут. Культурная акцыя не праводзіцца. Вялікія абшары адарваны ад цэнтраў: пошта за 18 км., чыгунка 25 км., места 20 км. Людзі чакаюць перамен, чагось лепшага, не баяцца нават вайны. Галіта, а галоўнае цемра даецца тут узнакі беларускаму селяніну.

Часта многія асобы, ня маючы на чым жыць, шукаюць шчасьця заграніцай — уцякаюць у СССР. Але і там ня так добра, як здаецца.

Распаўсюджваецца цяпер па вёсках радыё „Дэтэфон“, аднак часта паліцыя адбірае права з яго карыстаць, каб Менску ня слухалі. Тымчасам да менскага радыя цягне нашага селяніна толькі беларуская мова, дык чаму-ж польскія радыёстанцыі не надаюць тады пабеларуску.

Агульнае цяжкое палажэньне нашае вёскі павінна быць для нас —маладога пакаленьня — наказам да працы культурнае, коопэрацыі, да паляпшэньня сваіх гаспадарак.

**П. Лаў—нак**

## З царкоўнага жыцьця

**Кастыкі, Вялейскі пав.** Чытаючы ў беларускіх часапісах аб царкоўных справах, пастанавіў і я напісаць аб нашым царкоўным мясцовым жыцьці. Прыход наш вялікі і чыста беларускі, раскінуты аж на тры царквы — Зацеменская, Забалацкая і Кастыцкая. Служба Божая адпраўляецца болей у нас. Цяперашнім настаяцелям прыходу зьяўляецца сьвяшчэньнік А. Коўш, Беларус, усе-ж папярэднікі яго былі маскалі. Калі-ж а. А. Коўш пачаў гаварыць пабеларуску пропаведзі, дык народ болей навярнуўся да царквы, людзі сталі больш рэлігійнымі. Зроблены рэмонт царквы і царкоўных будынкаў, магілкі абгарадзілі каменным плотам і г. д. Агулам усюды запанаваў парадак, якога дагэтуль ня было. Дзеля таго трэба, каб праваслаўныя Беларусы ўсюды стойка дамагаліся сваіх духоўнікаў Беларусаў і свае роднае мовы ў цэрквах.

**А. Л.**

## Naš abaviazak

**Hovezno, Niaśvižski pav.** Darahija i miłyja padpiščyki„šlachu Moładzi!“ Hlanuŭšy na sučasnaść našaje Krainy ciažka na dušy robicca. ściskajecca bolam serca. U žyłach žyviej začynaje chvalavacca kroŭ, jak u mory ŭ čas niepahody vada. Dola źmiennaja. Kaliś Pahonia z padniatym uhary miačom ścierahła hranicaŭ narodaŭ pražyvajučych pamiž Bałtyckim i Čornym marami. Kaliś Pahonia družyła iz Biełym Arłom i razam pieramahali najhraźniejšych vorahaŭ taho času. Heta byŭ čas slavy kultury i pašany našaha kraju. A ciapier? Ciapier, darahija padpiščyki, my žyviom u viek radja, kina,aeraplanaŭ, linjaŭ mažinota, padvodnych łodak, šalonaha pierałomu, pierabudovy žyćcia čałaviectva hetaha śvietu, novych myślaŭ, idejaŭ, paniaćciaŭ, pahładaŭ, žadańniaŭ, i tak heta ŭsio chutka idzie, što dzień, što hadzina prynosie novyja i novyja zdabyčy techniki, kultury...

Padpiščyki! my maładoje pakaleńnie, my pavinny jści da palepšańnia doli svajho narodu. Ad nas zaležyć budučynia našaje Baćkaŭščyny. Dyk budźma hodnymi imia svajho narodu, kab pradziedavy kości spakojna lažali ŭ ziamli, a budučyja pakaleńni ni ŭspaminali nas praklonam. Nia budźma ŭ hety čas zdrady, podłaści i kryŭdy biazčynnymi, a prajaŭlajma bolš enerhii i aktyŭnaści ŭ pracy kulturnaj i haspadarčaj.

Ciapier-ža adznačma 10-tyja ŭhodki vychadu časapisu „Šlachu Moładzi“ i našamu pavažanamu Hramadzianinu Redaktaru i Vydaŭcam—niaŭtomnym pracaŭnikam na nivie bieł. adradžeńnia—zrobim niespadzieŭku: pastanovim, miłyja padpiščyki, što kožny iz nas u hetym hodzie pavinien prydbać sabie novaha padpiščyka na„Šlach Moładzi“.Takim čynam padvoim vychad časapisu. Vypisvajma i druhija biełaruskija hazety i knižki. Ažyviem svaju dziejnaść. Uśviadamlajma abałamučanych, ciomnych, katoryja praz niaśviedamaść stalisia renehatami i pahardžajuć rodnaj spravaj. Tahdy nas acenić uvieś śviet i na't niepryjacieli našyja nas ušanujuć.

Dyk skarej, skarej na rodnuju nivu — da pracy. Mnoha majem raboty. Starajmasia zaŭsiody akuratna apłačvać časapis, bo soram kab vypisvać a paśla nie płacić. Dyk da spaŭnieńnia abaviazku! Nie spadziajomsia, kab u našym liku padpiščykaŭ našlisia ludzi biez ambicyi i honaru i ihnaravali rodnuju spravu, katoraja kožnamu česnamu, stojkamu Biełarusu nad žyćcio pavinna być darožšaja. Česć! Kaležanki i Kalehi„Šlachu Moładzi!“

**D. Hardy**

**Dobry pryjaciel. (Na miesiac tannaje pradažy biełaruskaje knižki.).** Italjanski mudrec Pietrarka, jaki žyŭ šeśćsot hadoŭ tamu, kazaŭ ab knižcy hetak: ja maju pryjacielaŭ, z jakimi pravodžu vielmi pryjemna čas. Jany nikoli nie dakučajuć i dajuć adkaz na ŭsie maje pytańni. Adny z ich raskazvajuć mnie ab daŭno minułych spravach, inšyja vyjaśniajuć mnie tajnicy pryrody. Adny raźviesialajuć mianie, inšyja zahartoŭvajuć maju dušu i vučać jaje panavać nad saboju... — Kožny moža być kavalom svajho ščaścia, a najlepšym mołatam u hetym kavalstvie jość dobry časapis i knižka.

**Sielanin u Polščy kuplaje płuh raz na sto hod.** Sen. Bisping na siolетniaj budžetnaj sesii polskaha parlamentu na asnovie statystyčnych dadzienych zajaviŭ, što ŭ Polščy sialanskaje haspadarstva kuplaje adzin płuh raz na sto hod. Dziejecca heta dziela taho, što ziemlarobskija pryłady darahija, a ziemlarobskija pradukty tannyja.

**Vyvaz jajok zahranicu.** Z Polščy ŭ 1938 h. vyviezіena zahranicu 377 tysiač skryń jajok narmalnych i 734 tonny jajok u zamarožanym stanie. Ahulnaja vartaść usich vyviezienych jajok siahaje bolš 40 miljonaŭ złotaŭ. Haloŭnym rynkam zbytu była Anhlija.

**Kolki i dzie ludziej pracuje na 1 hektary ziamli.** Lik ludziej pracujučych na ralli nikoli nie pavinien być vyšejšy, jak 30 na 1 hektar. Na śviecie adnak rozna byvaje. Tak napr. u Francyi bolš-mienš pracuje na hektary ziamli 23 asoby, u Belnii -- 33, u Halandyi — 27, u Niamieččynie — ad 28 da 38. Najmienš ludziej pracuje na hektary ŭ Danii, bo ŭsiaho 15, najbolš-ža ŭ Polščy — 48 i ŭ Italii — 44 čałavieki.

**Miasa kurcoŭ niasmačnaje...** Adzin francuski lekar, jaki niadaŭna viarnuŭsia z dzikich i niedaśledžanych kutkoŭ Afryki, dzie žyvuć ludajedy, havoryć, što henyja ludajedy nikoli nie zabivajuć tych ludziej, što kurać tytun, bo miasa ich tak śmiardzić tytunom, što nijak nia možna jaho jeści... Dziela taho kažuć, što kali chodzić ab smak i niuch, dyk henyja ludajedy stajać vyšej ad našych kulturnych kurcoŭ!...

**Ježa i adpačynak.** Čałaviek, jaki nie pracuje, moža vytrymać poŭny hoład try i bolš tydniaŭ, ale treba, kab choć pakrysie piŭ vadu. Biaz snu čałaviek nia moža vytrymać bolš jak 8 dzion. Dziela taho lekary kažuć, što dziela zdaroŭja čałaviek pavinien dobra adpačyvać, spać što-dzień 8 hadzin, a dzieci pa 9, 10 i bolš hadzinaŭ.

**Kolki jość kinaŭ?** Najnaviejšaja statystyka padaje, što na ŭsim śviecie jość 93.000 kinamatahrafaŭ (kinaŭ). Z hetaha liku na Eŭropu prypadaje 66.362 kiny. Za minuły hod na ŭsim śviecie prybyło 3.719 kinaŭ.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# ШТО ЧУВАЦЬ

— **эўропай ускалыхнулі новыя падзеі. Пачаліся яны разьвівацца ў Чэхаславаччыне,** дзе ўсё-ж тры братнія славянскія народы: Чэхі, Славакі і Украінцы не змаглі згодна ўлажыць свайго жыцьця. **Славакі** апошнім часам што-раз больш выступалі супроць Чэхаў і ўрэшце 14.III.39 запэўніўшы сабе помач Гітлера **абвесьцілі Славацыю вольным і незалежным гаспадарствам. 15.III.39 абвесьціла незалежнасьць Карпацкая Украіна. У Чэхіі-ж пачаліся забурэньні нямецкіх сялян.** Бачачы ўсё гэта, **Чэскі прэзыдэнт Гаха і мін. Хвалькоўскі паехалі да Гітлера і 15.III.39 падпісалі з ім супольную дэклярацыю, каторай аддалі Чэхію пад уладаньне Нямеччыны.** На другі дзень нямецкае войска заняло ўсю Чэхію, а сам Гітлер адведаў Прагу і ўстанавіў свой пратэктарат — апеку, якая фактычна ўзалежняе ўсё жыцьцё ў Чэхіі ад Нямеччыны, хоць чэскі прэзыдэнт і ўрад далей асталіся на сваіх становішчах, але ўжо як органы падпарадкаваныя нямецкай уладзе. Гітлер абяцаў толькі Чэхам свабоду ў культурнай працы. — Нямеччына заняўшы Чэхію, фактычна бяз выстралу, калі ня лічыць дробных бунтаў чэскіх войск і сутычак іх з нямецкімі аддзеламі, здабыла 74,364 кв. клм. абшару з 10 мільёнамі жыхараў, вялізарны ваенны промысел, 3.000 гатовых самалётаў і агулам шмат багацьцяў, між іншым, ня мала золата з чэскага банку.

— **Славацыя** ў сьлед за Чэхіяй таксама **паддалася пад апеку Гітлера** і на яе абшары нямецкае войска робіць свае крэпасьці.

—**На Карпацкую-ж Украіну ўвайшло мадзярскае войска** і пасьля вострае, жорсткае і няроўнае барацьбы з украінскімі вайсковымі аддзеламі (січавікамі) заняло ўсю гэтую краіну, асягаючы такім чынам супольную **польска-мадзярскую граніцу,** да каторай Мадзяры і Палякі так моцна імкнуліся. Просьбы Украінцаў аб помач у Гітлера асталіся без адказу.

— З усіх гэтых падзеяў выглядае, што скарысталі перад усім **Немцы, Мадзяры і Палякі.** Аднак, ня гледзячы на гэта, пасьля заняцьця Немцамі Чэхіі, найгаласьнейшым клічам у Польшчы стаўся кліч да ўваружэньня і стойкасьці ў абароне сваіх граніцаў. Пад гэтымі клічамі адбываліся сьвяткаваньні імянінаў Марш. Э. Рыдз-Сьміглага (18 г.м.) і Марш. Я. Пілсудзкага (19 г. м.).

— **Але на Чэхаславаччыне падзеі ня кончыліся. 20.III.39 Гітлер зажадаў ад Літвы, каб яна аддала Клайпэдзкі Край,** бо ў праціўным выпадку Немцы забяруць яго сілай. Літва, ясна, згадзілася і 22 г. м. аддала Клайпэдзкі Край Нямеччыне. 23.III у Клайпэдзе было ўжо нямецкае войска, а таксама і сам асабіста Гітлер. За тое, што Літвіны аддалі Клайпэду дабравольна, Нямеччына дала Літве ў Клайпэдзе нэўтральную паласу, праз каторую Літвіны маюць доступ да мора ў гэтым партовым месьце.

— **Пасьля Чэхаславаччыны і Літвы, Немцы,** як пісалі газэты, праз Мадзярчыну мелі рабіць націск **на Румынію,** каб даставаць адтуль газу. У Румыніі была змабілізаваная армія. Тымчасам кончылася ўсё гандлёвым румынска-нямецкім дагаворам падпісаным 23.III.39, які дае Нямеччыне ў Румыніі на дагодных варунках доступ да газы і рынак збыту на нямецкія машыны і аружжа.

— Зварочваюць агульную ўвагу **падзеі ў Югаславіі,** дзе Харваты што-раз энэргічней высоўваюць свае дамаганьні Сэрбам, каб супольна кіраваць гэтым гаспадарствам. Адначасна ходзяць чуткі, што **Немцы хочуць мець свае ўплывы і ў Югаславіі.**

— Некаторыя газэты пішуць, што **Нямеччына** мае так-жа тэрыторыяльныя прэтэнсіі **да Даніі.**

— **Англія, Францыя, Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі, Саветы,** а так-жа і іншыя гаспадарствы моцна ўстрывожаныя апошнімі падзеямі і ўзростам Нямеччыны, пратэстуюць супроць заборчых паходаў Гітлера і зброяцца, бо ўсе спадзяюцца, што хутка **выбухне новы канфлікт,** а іменна — **Гітлер і Мусоліні могуць зажадаць калёніяў і свае жаданьні падтрымаць аружнай сілай.** Асабліва ў гэтым зацікаўлены Мусоліні, бо Італія будучы саюзьніцай Нямеччыны фактычна памагае ёй разрастацца, а сама нічога не здабыла. У сувязі з трывожным настроем на Захадзе, набірае вялікага значэньня паездка францускага прэзыдэнта ў Англію, каторая яшчэ больш зацiскае вузлы прыязьні між Францыяй і Англіяй.

— Падзеі ў Сярэдняй Эўропе адцягнулі ўвагу ад войнаў на **Далёкім Усходзе і ў Гішпаніі,** дзе барацьба быццам прыціхла. — На днях газэты падалі толькі, што ў гішпанскай вайне згінула і ранена больш 13 тысяч італіянскіх жаўнераў і афіцэраў, каторыя памагалі ген. Франко.

— Ад 10 да 21 г. м. у Маскве адбываўся **18 кангрэс Камуністычнае Партыі СССР,** у часе якога Сталін сказаў вялікую прамову, якая адзначаецца ціхім тонам у адносінах да Нямеччыны. Характэрна, што Сталін уважае антыкамуністычны Нямецка-Італіянска-Японскі блёк ськіраваным ня супроць СССР, а проціў Францыі, Англіі, Зл.Шт. Паўночн. Амэрыкі і інш. гаспадарстваў, што маюць шмат калёніяў.

## Паштовая скрынка

**М. Крывічу:** Пісьмо і вершы з 11 г. м. атрымалі, ранейшых не. У меру магчымасьці ахвотна будзем друкаваць.

**Biedaku:** Karespandencyju vykarystajem. Vieršy słabyja. Radzim bolš pracavać nad saboj: čytać i paznać dobra biełaruskuju hramatu.

**А. Жуку:** Вершы атрымалі, надрукуем. Прывітаньне!

**S. Łojku:** Knižak biaz hrošaj kniharnia nia vysyłaje. Kali chočacie vypisać „za pobraniem", dyk treba prysłać zadatak, prynamsi treciuju častku vartaści knižak.

**М. Г—ічу:** Карэспандэнцыю выкарыстаем. Будзем так-жа старацца паправіць і надрукаваць хоць адзін верш. У працы сваей Вы сапраўды робіце поступ.

**J. Brylu:** ščyra dziakujem za prysłanyja mataryjały. Adnačasna paviedamlajem, što tydzień raniej atrymali my pierakład „Pieršaha harelnika" i ad biełaruskaha paeta S. Piajuna i ŭžo ŭ najbližejšym časie dumajem jaho drukavać. Druhi Vaš pierakład, biazumoŭna, u budučyni vykarystajem. Pryvitańnie i najlepšyja pažadańni ŭ novych žyćciovych abstavinach!

**D. Hardamu:** Karespandencyju achvotna drukujem i prosim pisać čaściej.

**B. H.-Bab.:** Za pryvitańnie ščyraja padziaka. Prośbu spoŭnili.

**M. Volnamu:** Za kupony i pažadańni ščyra dziakujem. Prośbu starajemsia spoŭnić.

**M. Kazar. i M. Hal.:** Usie časapisy vysyłajucca Vam akuratna. Hinuć, vidać, hdzieś tam na Vašaj pošcie.

**Г. Д.:** Вершы, нажаль, яшчэ слабыя і да друку не падходзяць. Просім пісаць карэспандэнцыі.

**Biełarusu:** Za ŭsio prysłanaje ščyra dziakujem. Budziem karystać. Pazyki z nazvanaha banku atrymać niemahčyma, bo jon nia maje ciapier hrošaŭ. Kooperatyvu radzim arhanizavać samatužna svaimi miascovymi siłami. Instrukcyju, jak załažyć kooperatyvu, vysyłajem.

**V. Kryvičaninu:** Mataryjały atrymali, ščyra dziakujem. Jak bačycie, užo pačali karystać. Pryvitańnie!

**П. Лаў—вічу:** За прывітаньне шчырая падзяка. Вершы слабыя. Чакаем на карэспандэнцыю з Вашае стараны. Фэльетоны пісаць можна ўсім, хто толькі мае да гэтага здольнасьці.

**Струне:** Некаторыя вершы нішто сабе. Паправіўшы, можна будзе друкаваць. Радзім Вам больш над сабой працаваць і пяра ня кідаць.

**P. Suško:** Za pryvitańnie i prysłanyja mataryjały ščyra dziakujem. Budziem pakrysie drukavać.

**Prysutnamu radnamu:** Karespandencyi Vašaje nia možam nadrukavać z pryčyn cenzuralnych. Dobra zrabili, što padali pratest i što stojka baronicie prava i siabie. Češć Vam i slava!

**М. Брысу:** Матарыялы атрымалі, у меру магчымасьці будзем друкаваць. Украінскіх календароў ня маем. „Шл. Мол." будзем высылаць.

**У. Л.:** Артыкул надрукуем у адным з найбліжэйшых нумароў.

*„Шлях Моладзі" друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каштатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Wydawca: „Biełpres". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.